

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 31 (767) 2 ЖНІЎНЯ 2006 г.


## У памяць паўстанцаў 1863 года



30 ліпеня ва ўрочышчы "Крыжы", паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы Лідскага раёна адбыўся штогадовы фэст у памяць паўстанцаў 1863 года.

Як звыкла да крыжоў прыйшлі жыхары вёсак, Белагруда, Малое Ольжава ды Мохавічы. Прыехалі людзі з Ліды, Бярозаўкі, вялікай дэлегацыяй прыехала моладзь БНФ з Менска.



У спакойнай, намоленай атмасферы гэтага святога мейсца важка гучалі словы малітвы ксяндза Рычарда, якія адгукаліся ў сэрцах прысутных розных канфесій.

Польскамоўную малітву ксендза суправаджалі беларускія спевы хору каталіцкай моладзі з Ліды. Імпрэза ладзілася пад сцягам ТБМ і пра значнасць вычыну герояў 1863 года гаварыў да прысутных старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ імя Ф. Скарыны Станіслаў Суднік.



*Выступае Вольга Іпатава*

Пасля імшы з паэтычным словам да прысутных звярнулася сллынная беларуская пісьменніца Вольга Іпатава, якая ўжо другі раз прыязджае пад Малое Ольжава, каб пакланіцца памяці тых, хто сваім жыццём заплаціў і ў тым ліку за тое, каб мы сёння маглі сабрацца на гэтым полі ў незалежнай краіне Беларусі.

Менавіта ў горне гэтага паўстання пачала кавацца будучая нацыянальная свядомасць беларускай нацыі. Менавіта цераз гэтае паўстанне прайшлі такія волаты нацыянальнага духу, як Францішак Багушэвіч і многія іншыя, якія сталі ля вытокаў новай трактоўкі нацыянальнай ідэі беларусаў, як самастойнага народа новай эры гісторыі чалавецтва.

*Яраслаў Грынкевіч.*

*(Працяг тэмы на ст. 9.)*

## Не стала Янкі Брыля

Народны пісьменнік Беларусі, класік айчыннай літаратуры, адзін з заснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны памёр 24 ліпеня ва ўзросце 88 гадоў.



Янка Брыль нарадзіўся 4 жніўня 1917 года ў Адэсе ў сям'і чыгуначніка.

У 1922 годзе разам з бацькамі пераехаў на іх радзіму, у Заходнюю Беларусь. Там жа скончыў польскую сямігадовую школу, працаваў, займаўся самаадукацыяй. У 1939 годзе быў прызваны ў польскую армію, служыў у марской пяхоце. У верасні 1939 года Янка Брыль трапіў у нямецкі палон, адкуль восенню 1941 года ўцёк на радзіму. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў сувязным партызанскай брыгады імя Жукава Баранавіцкага злучэння, партызанам-разведчыкам брыгады "Камсамолец", рэдактарам газеты "Флаг свободы" і сатырычнай антыфашысцкай улёткі "Партизанское жало".

З кастрычніка 1944 года Янка Брыль жыў у Мінску. Працаваў у рэдакцыях газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну", часопісаў "Вожык", "Маладосць", "Полымя", у Дзяржаўным выдавецтве БССР, быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР з 1966 па 1971 год.

Янка Брыль — аўтар апавяданняў, аповесцяў, раманаў, кніг публіцыстыкі. У сааўтарстве з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам напісаў кнігу "Я з вогненнай вёскі...", у якой сабраны сведчанні людзей, якія засталіся жывымі ў вёсках, спаленых фашыстамі разам з іх жыхарамі.

Пісьменнік быў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР, Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, Дзяржаўнай прэміі БССР. Янка Брыль двойчы абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1963—1967, 1980—1985). Сваім выступленнем ён адкрываў Першы нацыянальны кангрэс дэмакратычных сіл у 1996 годзе.

Пахавалі Янку Брыля на могілках у Калодзішчах, каля магілы жонкі.

*БелаПАН.*

## САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ УКРАІНЫ ВЫКАЗАЎ СПАЧУВАННІ Ў СУВЯЗІ СА СМЕРЦЮ ЯНКІ БРЫЛЯ

Кіеў, 27 ліпеня. Літаратары Украіны спачуваюць беларускаму народу з нагоды смерці Народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля.

У дзень яго пахавання сакратар рады Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Валерый Герасімчук заявіў БелаПАН, што Брыль быў не толькі вялікім пісьменнікам, але і вялікім патрыётам, які сваім таленавітым словам шмат гадоў пераконваў свет у наяўнасці беларускай нацыі, у тым, што ёсць такая рэспубліка — Беларусь. "Мы, украінскія пісьменнікі, заўсёды ўважліва сачылі за з'яўленнем кожнай ягонай кнігі. Разам з творамі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна ды іншых выдатных беларускіх літаратараў чыталі апавяданні і раманы Янкі Брыля. Ён быў вялікім сябрам Украіны", — зазначыў В.Герасімчук.

Ён дадаў, што ў перакладах Я.Брыля на беларускай мове выходзілі кнігі шмат каго з украінскіх пісьменнікаў. У сваю чаргу на Украіне выйшла багата твораў Я.Брыля ў перакладзе на украінскую мову. "Мы шчыра радаваліся, калі Янка Брыль быў ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй СССР, і сёння мы шчыра сумуем з нагоды ягонай смерці. Светлая яму памяць", — сказаў В.Герасімчук.

*Валерыя АЎСЯНІК, БелаПАН.*

## Беларускія ліцаісты ўшанавалі памяць Янкі Брыля хвілінай маўчання

З глыбокім смуткам даведаліся вучні Гуманітарнарнага ліцэя пра смерць Янкі Брыля.

Жалобная навіна нагнала ліцэістаў у польскім горадзе Гданьску, куды яны выехалі на двухтыднёвую вучобу. Ліцаісты добра знаёмыя з творчасцю Народнага пісьменніка, любяць дакладнае і па-сапраўднаму мастацкае слова патрыярха беларускай прозы, таму ім было ўдвайне цяжка ўспрыняць вестку пра адход пісьменніка.

Ліцаісты ўшанавалі памяць Янкі Брыля хвілінай маўчання.

*Наш. кар.*



# СЛУЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

## Развагі пра творчасць Янкі Брыля

***"Два найвялікшых званні — пісьменнік і чалавек. Адно мне вельмі хочацца набыць, другое — яшчэ больш — не страціць".*** Так сказаў пра сваю запаветную мару Янка Брыль. Для патрабавальнага мастака яна вельмі натуральная менавіта ў такім спалучэнні (пісьменнік і чалавек), бо сапраўдным пісьменнікам, неабходным людзям, свету, наўрад ці можна стаць і заставацца без глыбіннай чалавечнасці. У Я. Брыля клопат пра чалавека быў заўсёды адчувальным, так ці іначай скіроўваў ягоны выдатны талент у гуманістычнае рэчышча і тады, калі грамадскія ўмовы менш за ўсё схілялі да гэтага.

Аднак ёсць у згаданых словах і адна драбніца, якая здзіўляе сваёй нечаканасцю: гэтыя словы датуюцца 1969 г.! Тады за плячыма Я. Брыля было ўжо больш за трыццаць гадоў сумленнай і вельмі плённай літаратурнай працы (ён друкуецца з 1938 г.), якая прынесла мастаку шырокае прызнанне і ў Беларусі, і за яе межамі. А вось жа стаць пісьменнікам усё яшчэ заставалася. Парадокс? Не такі і вялікі. Бо фактычна гэта была мара не столькі пра ўласнае пісьменніцкае званне, колькі пра вышэйшую пісьменніцкую дасканаласць, мяжы якой увогуле няма. Заяўляла пра сябе і самакрытычнасць, уласцівая літаратару з маладых гадоў і захаваная ім да апошніх дзён.

Пачыналася ж Брылёва пісьменніцкая праца з вершаў, якія асаблівага поспеху аўтару не прынеслі, і з апавяданняў, у якіх талент пісьменніка адразу праявіўся вельмі ярка і шматгранна. Глыбокі чалавечы змест ёсць ужо ў самых ранніх апавяданнях празаіка, такіх, як "Марыля" або "Праведнікі і зладзеі". Маючы на ўвазе гэты і некаторыя іншыя творы з першай кнігі Я. Брыля (яна выйшла ў 1946 г. пад сціплай назвай "Апавяданні"), Кандрат Крапіва, які рэдагаваў тую кнігу і напісаў да яе добразычлівую прадмову, падкрэсліў: Брыль "пільна ўглядаецца ў навакольнае жыццё, умее падмячаць яго разнастайныя праявы, нават дробныя... У апавяданнях Янкі Брыля ў цэнтры ўвагі заўсёды знаходзіцца чалавек з яго складанай псіхікай, характарам, паводзінамі".

Даўно сталі класічнымі ўзорамі гэтага жанру ў нашай літаратуры такія апавяданні Я. Брыля, як "Маці", "Сцежка-дарожка", "Прывал", "Субардынацыя", "Апоўначы" і інш., у якіх і сёння вабіць чытача багацце духоўнага свету герояў, паўната праяў іх унутранага, духоўнага жыцця, іх чалавечая пры стойнасць, здольнасць на высакародства і самаахвярнасць у імя чалавека і чалавечнасці. На ўсю моц заявілі пра сябе ў гэтых і іншых творах пранікнёны брылёўскі лірызм, асаблівая цеплыня і сардэчнасць апавядальнай манеры, якія хораша аздабляюць і ў многім вызначаюць шматфарбны, поўны паэзіі і характва эмацыйны свет брылёўскай прозы ў яе лепшых, вяршынных дасягненнях. Лірычныя навелы Я. Брыля "нібы пранізаны сонцам, так шмат у іх сардэчнай цеплыні, трывалых вясенніх фарбаў, чароўнага абаяння маладосці, душэўнай чысціні", — пісаў яшчэ ў 50-я гг. Міхась Лынькоў, радуючыся немалым ужо на той час поспехам маладзейшага паплечніка па літаратурнай справе.

Тады ж была створана і пранікнёна-задушэўная, у самых лірычных мясцінах натхнёна-прачулая, як добрая песня, "Галя" (1953), якая невыпадкова многа разоў перакладалася ў розных краінах свету. Задумвалася гэтае ў шмат якіх адносінах тыповае для Я. Брыля савецкіх гадоў апавяданне як твор пра нягоды заходнебеларускай рэчаіснасці "за польскім часам" і прывабнасць калгаснага жыцця пры бальшавіках. Пра тыя нягоды мастак і ў "Галі", і ў некаторых ранейшых творах напісаў увогуле праўдзіва, бо ведаў іх па ўласным досведзе на ўсю глыбіню і да самых драбніц. А з калгаснай радасцю атрымалася іначай. На яе было шмат спадзяванняў, якія ў рэальным жыцці паступова развейваліся, "як дым, як ранішні туман". Пісьменнік, трэба думаць, таксама пэўны час падзяляў (ці, прынамсі, імкнуўся, прымушаў сябе падзяляць) гэтыя спадзяванні. Але і яму даволі хутка давялося расчаравацца.

Карацей кажучы, менавіта калгасная радасць, марай пра якую жыве брылёўская гераіня — заваблівая прыгожая Галачка, праклінаючы сваё няўдалае, для яе ў вялікай ступені вымушанае жыццё на хутары, — гэтая радасць сёння ніяк не ўспрымаецца. І ўжо зусім рэжуць вуха разважанні працавітага і як быццам недурнога Галінага сына Антося пра ўласнага бацьку Міколу Хамёнка, якога бальшавікі пасадзілі за краты: "Злуйся, дурань стары, на самога сябе. Яшчэ і сыну праз цябе брыдка...".

Антосеў бацька ў апавяданні выглядае непрывабна. Але пра канкрэтнае Хаменкава злачынства гаворыцца вельмі агульна, неяк глуха-няўцямна: "Куды ён толькі ні ездзіў на сваё гешэфты!.. Стоўбцы, Баранавічы, Мінск. Івось сядзіць. Даездзіўся, дабурчэўся...".

Відавочна, Мікола Хамёнак займаўся тым, што ў нас называлася шпекуляцыяй, а яшчэ выказваў нейкую незадаволенасць бальшавіцкімі парадкамі. Але ў цывілізаваных дэмакратычных грамадствах такое ўвогуле не разглядаецца як злачынства і не падлягае судоваму пераследаванню. Ды і савецкія ўлады з цягам часу мусілі рэабілітоўваць, праўда, у асноўным пасмяротна, мільёны рэпрэсаваных людзей, прызнаваць, што асудзілі іх беспадстаўна. Словам, за Хамёнкавым бурчэннем сёння можна ўбачыць не столькі яўны (па агульначалавечых мерках) крымінал, колькі зразумелы пратэст супраць нялюдскай жорсткасці таталітарнай дзяржавы.

Не вельмі ўражвае цяпер і згадка пра "гешэфты" з наведваннем Стоўбцаў, Баранавічаў ды Мінска. Трэба ж было чалавеку неяк выжываць, карміць сям'ю. Руплівы матчын памочнік Антось пра ўсё гэта ніяк не здагадваецца. Суд дзяцей над бацькамі — справа вельмі тонкая, далікатная і заўсёды рызыкоўная, цяжка-драматычная, калі ўвогуле дапушчальная. У Антося ж, акрамя пачуцця брыдкасці, у згадцы пра бацьку нічога больш няма. Таму яго нікім не аспрэчаны паспешлівы прысуд гучыць фальшывай, чужароднай нотай у мастацкім свеце "Галі" і ўсёй творчасці пісьменніка, узрошчанай на гуманістычных традыцыях Льва Талстога, а таксама Фёдара Дастаеўскага і іншых класікаў сусветнай і нашай нацыянальнай літаратуры.

Зразумела, гэтая дысанансная нота не была выпадковай. Яна ішла ад той ідэалагічнай устаноўкі на адлюстраванне "калгаснага шчасця", услаўлення савецкага ладу, з якою пісалася апавяданне "Галя". Але, на шчасце для літаратуры, сапраўдны мастак, які адчувае паўнакроўнасць жыцця і давяраецца гэтаму адчуванню, звычайна не ўкладваецца ў вузкае рэчышча ідэалагічнай зададзенасці і сілай свайго таленту пераадольвае яе, даючы творы высокай мастацкай дасканаласці.

Янка Брыль, вядома ж, мусіў так ці іначай лічыцца з ідэалагічнымі патрабаваннямі таталітарнай дзяржавы, ва ўсякім разе, зусім ігнараваць, а тым больш адкрыта замахвацца на іх ніяк не мог. І з-за цэнзурных забарон, і таму, што ў той ці іншай меры і сам падзяляў многія ілюзіі адносна савецкай улады.

Але творчасць пісьменніка заўсёды выходзіла за межы афіцыйнай ідэалогіі. Артадаксальныя абаронцы таталітарнай бальшавіцкай сістэмы адчувалі гэта і крытыкавалі Я. Брыля нават пасля таго, як ён стаў лаўрэатам Сталінскай прэміі ў галіне літаратуры. Тую прэмію, якая тады была для многіх знакам іх афіцыйнай прававерн асці і нават прыжыццёвай кананізацыі, пісьменнік атрымаў яшчэ ў 1952 г. за аповесць "У Забалоцці днее", твор недастаткова праўдзівы, не пазбаўлены і яўнай лакіроўкі, хаця напісаны з маладой шчырасцю (яе нараджала ружовая захопленасць зманлівымі спадзяваннямі на будучае калгаснае шчасце), але пазней рэзка крытычна ацэнены самім аўтарам, які раз за разам скрушліва занатоўваў: "У Забалоцці днее", рэч найслабейшая, за якую мяне хвалілі якраз найбольш"; "Пра "Забалоцце" ўжо часта думаю з болем і агідай"; "Азіраешся назад, на сваё "Забалоцце", і горка, і цяжка".

Словам, і "алаўрэачаны" Я. Брыль не стаў бяздумным падпявалам афіцыяльшчыны, а шукаў, часта пад улюлюканне ўсё тых жа артадоксаў, сваю мастакоўскую праўду.

У той жа "Галі" з рэдкай і ў добрых майстроў класічнай бездакорнасцю паказаны пачуццёвы свет галоўнай гераіні, глыбокая чалавечая драма жанчыны, вясковай прыгажуні, напісаная з вялікім аўтарскім замілаваннем. Яна горача і безаглядна пакахала аднаго, а мусіла з-за розных прычын, сярод якіх і Галіна залішняя даверлівасць, звязаць свой лёс з іншым, з нялюбым...

Тонкі псіхалагічны аналіз, які з'яўляецца характэрнай прыкметай лепшых твораў Я. Брыля, дазволіў пісьменніку па-майстэрску ўзнавіць і асэнсаваць тыя эмацыйныя буры, што сатрасаюць душу пастарэлай ужо Галі, якой з каханым "калісьці цёпла было стаяць і на снезе", а цяпер, без яго, "холадна ўжо і на летняй расе".

Так, многае, вельмі многае страціла Галя на пакручастай жыццёвай дарозе. Але ніяк не можа яна забыць загубленую маладосць, сваё першае, ужо даўно для яе страчанае, каханне, свайго бясконца любага і цяпер Сярожку! Ён начамі працуе на трактары і ягоным гудзеннем, для звычайнага ўспрымання прыкра-надаедлівым, а для Брылёвай гераіні поўным кранальнай музыкі, абуджае ў Галі высокае хваляванне, горкую радасць і пакутны шчымліва-журботны боль ад усведамлення, што былое не вяртаецца, некалі зробленыя памылкі не паддаюцца выпраўленню.

З вялікай сардэчнай цеплынёй і зноў жа з аўтарскай замілаванасцю напісаў Янка Брыль пра Галіну любасці да дзяцей, асабліва да малодшай Сонечкі, чорненькай шчабятушкі з вялікімі вачыма, якая нагадвае жанчыне яе самую ў маладосці. Псіхалагічны партрэт Сонечкі дакладны і вельмі прывабны.

У апавяданні "Галя" заявіў пра сябе і талент Брыля — дзіцячага пісьменніка, які займае сваё адметнае месца і ў гэтай галіне літаратурнай творчасці. "Захапляцца маленствам, наогул пачаткам жыцця, пісаць пра гэта — найцікавей", — прызнаваўся мастак у аўтабіяграфіі, якая датуецца 1962 г. Ён і сапраўды пішa пра дзяцей на працягу ўсяго свайго творчага жыцця, піша ўдумліва глыбока, змястоўна, з выдатным веданнем дзіцячага свету і выразным захапленнем яго непасрэднасцю, святой наіўнасцю, якая ніколі не лічыцца з фарысействам дарослых.

Тонкае разуменне псіхалогіі юных герояў ёсць ужо ў самых ранніх брылёўскіх творах для дзяцей. Вось чаму гэтыя апавяданні, сёння з цікавасцю перачытваюцца не толькі дзецьмі, але і дарослымі. Угэтым пераконваюць аповесці "Сірочы хлеб" і "У сям'і", працай над якімі аўтар грэў душу ва ўмовах ваеннага ліхалецця. Тады была створана першая рэдакцыя "Сірочага хлеба" і аповесць "У сям'і", дапоўненая заключным раздзелам у сярэдзіне 50-х гг. У абедзвюх аповесцях адлюстроўваецца заходнебеларуская рэчаіснасць. Я. Брыль, вядома, застаецца праўдзівым мастаком і ў каларытным паказе звычайных праяў вясковага жыцця ў тую таксама нялёгкую для беларусаў пару, і ў падкрэсліванні жорсткасці карнай палітыкі польскай дзяржавы ў дачыненні да прыхільнікаў беларускай справы, а тым больш — удзельнікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху (старонкі пра Картуз-Бярозу з аповесці "У сям'і", згадкі пра арышт Міколы Кужалевіча з "Сірочага хлеба"). Не выдумаў пісьменнік і сімпатыі заходнебеларускага насельніцтва да савецкай краіны. "Усе ж чакаюць прыходу таварышаў", — суцяшае, абнадзейвае сябе герой "Сірочага хлеба" Данік Малец, не ведаючы, не здагадваючыся, якія пакуты прынясе той прыход не толькі панам.

Пэўны ўплыў афіцыйных ідэалагічных канонаў адчуваецца і ў аповесці "Апошняя сустрэча" (1958 — 1959). Ён відавочны ў яўным налёце палітызацыі што ўносіцца ў інтымныя стасункі герояў гэтага твора Чэсі Расіцкай і Лёні Жывеня. Цікавым жа і неардынарным робіць твор праўда чалавечых пачуццяў, што ёсць у паказе складанага стаўлення таго ж Лёні Жывеня да жонкі Алесі, якую ён глыбока паважае, але па-сапраўднаму не кахае, і да дзяцей, Марусі і Сярожы. Перад імі Жывень і адчувае сваю найбольшую віну пасля "прыгоды" з Чэсяй, якую вясковы донжуан доўгі час "успамінаў як самую чароўную з усіх знаёмых і незнаёмых жанчын".

Адважыўся Янка Брыль у "Апошняй сустрэчы" і на крытычны паказ прадстаўнікоў нашых карных органаў, што па тых часах гучала нязвыкла, успрымалася як мужнае слова грамадзянскага пратэсту супраць прыніжэння чалавечай годнасці ў краіне, якая лічылася дзяржавай працоўных, але менавіта іх і баялася больш за ўсё. Яно, тое прыніжэнне, выразна выяўляецца ў цынічным патрабаванні маёра дзяржбяспекі Зіміна, каб Жывень развёўся з жонкай з-за яе ўяўных "грахоў" перад бальшавіцкай уладай. Жывень адхіляе такое патрабаванне, але расплачваецца за гэта стратай пасады. І то быў яшчэ не самы горшы варыянт.

Зрэшты, Я. Брыль быў даволі крытычны і ў папярэдняй аповесці "На Быстранцы" (1953 — 1955), якая потым, як і "Апошняя сустрэча", выклікала шмат нараканняў з боку ідэалагічных ахоўнікаў сістэмы. Ім было з-за чаго турбавацца, бо пісьменнік, хоць і не адмаўляў самую сістэму, але пра нашы тагачасныя парадкі сказаў няяжала горкай праўды. Ён ці не ўпершыню ў беларускай савецкай літаратуры вуснамі сваіх герояў загаварыў пра наяўнасць адсталых калгасаў з пустым працаднём у іх. А за тым жа стаяла "горкая нястача ў хаце" вясковага жыхара, на якога многія глядзелі і ўсё яшчэ глядзяць з адкрытай пагардай. Вось і задумваецца адзін з герояў аповесці, інвалід вайны, якому, замест рэальнай палёгкі ў жыцці, зноў і зноў трубяць пра свядомасць, неабходнасць любіць зямлю і іншыя прапісныя ісціны, важныя самі па сабе, але нядзольныя замяніць звычайны кавалак хлеба на стале. А яго, таго кавалка, няма, бо праца не аплачваецца: "Колькі яе, свядомасці, прыходзіцца на аднаго чалавека? Ну, скажам, на мяне, бязногага? Можа, і хопіць, што чыкіляю начамі, вачэй не плюшчу — вартую? Сам не бяру і другім не даю, і ўсім нам ад гэтага ні храна не прыходзіцца. Толькі свядомасць... Ну, дык скажы, браток, чаму гэта нашаму брату, хто кроў праліваў за савецкую ўласць, жывецца так нясоладка?"





# СЛУЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

## *Развагі пра творчасць Янкі Брыля*

Як пратэст супраць бяспраўнага становішча асобы ў таталітарнай дзяржаве гучалі ў аповесці “На Быстранцы” і развагі пра тое, што “рабочага чалавека трэба высока падняць”, падняць не на словах, (гэтага ў нас заўсёды хапала!), а на справе.

Дасталося ў Брылёвым творы і лакіровачнай літаратуры, якая з крывадушнай захопленасцю славіла калгасны дабрабыт, калі ім у тыповых гаспадарках і не пахла. Калі ж тая фарысейская літаратура і закранала асобныя недахопы на агульным зіхоткім фоне ўяўных дасягненняў, дык вінавацiла ва ўсім самiх сельскіх працаўнікоў, а не дзяржаву. Хоць менавіта яна не толькі бескантрольна рапараджалася калгаснай масмасцю, але і грабіла сялянства лраз непамерныя падаткі. Іх трэба было плаціць за ўсё, нават за кожнае пладовае дрэва і ягадны куст на прысядзібным участку, які тады быў галоўнай апорай вяскоўцаў, і хоць з большага неяк карміў іх. Людзі выкладваліся да апошняга, а ім казалі: лайдакі, дык і дрэнна жывяце. “А я да лайдакоў і ездзіць не хачу”, — заяўляе ў аповесці Я. Брыля пісьменнік-алілуйшчык, калі ў яго спыталіся, ці быў ён у бедных калгасах. Між іншым, рэпліка невыдуманая. У рэальным жыцці гэткі “афарызм” выдаў празаік, які шчодра распісваў у сваіх творах поспехі ў калгасе Кірылы Арлоўскага, не аналізуючы, аднак, ні метады жорсткага прымусу, якімі гэты неардынарны чалавек карыстаўся, ні тыя выключныя ўмовы, у якія ўзначаленая ім гаспадарка была пастаўлена.

З'едліва пісаў Я. Брыль у аповесці “На Быстранцы” пра псеўдавучоную жвачку ў працах навукоўцаў, пра “млявае размазванне даўно вядомага” у дысертацыях па літаратуразнаўстве і нават закрануў, праўда, вельмі асцярожна, цэнзуру. Яўны ківок на яе даецца праз Толю Клімёнка. Гэты журналіст-пачатковец, які марыць стаць пісьменнікам, мяркуючы напісаць нарыс, з горыччу думае: “Толькі хто ж яго надрукуе — без патакі”. Тады паўсюдным было патрабаванне пісаць толькі пра станоўчае. Увогуле, Толя з яго сумленнымі памкненнямі і праўдалюбствам маладога максімаліста: “Трэба праўдзе глядзець у самыя вочы” — вельмі прывабны хлопец. Асабліва хораша раскрываецца ён у каханні да будучай настаўніцы Люды Нагорнай, якая належыць да самых паэтычных вобразаў, створаных пісьменнікам.

Мастацкім адкрыццём новага жыццёвага пласта ў нашай літаратуры стаў брылёўскі раман “Птушкі і гнёзды” (1964). “У ім, — зазначае пісьменнік, — я расказаў пра Германію 1939 — 1941 гадоў, якую я бачыў ваеннапалонным пасля разгрому гарнізона [польскай арміі] у Гдыні...” Празаік, па ягоных словах, “лічыў сваёй задачай паказаць, якімі былі немцы ў сябе дома перад тым, як частка іх прыйшла на нашу зямлю ў гітлераўскіх мундзірах”.

Такім чынам, аўтар, абапіраючыся на ўласнае веданне, паказаў звычайны фашызм, які нараджаўся пад ухвальныя хрыкі адурманеных хлуслівай прапагандай немцаў. Яны паверылі энергічнаму дэмагогу з маленькімі вусікамі, спакусіўшыся на ягоныя абяцанні забяспечыць народны дабрабыт. Платай за гэтую даверлівасць сталі незлічоныя пакуты і вялікая кроў і саміх немцаў, і многіх іншых народаў, у тым ліку нашага, беларускага, які ў барацьбе з нямецкім фашызмам панёс найбольшыя ў працэнтных адносінах страты.

Добра прасочана ў “Птушках і гнёздах”, як звычайны фашызм, напачатку і не такі ўжо для ўсіх страшны, набіраючы сілу, ператвараецца ў фашызм ваяўнічы, агрэсіўны і адкрыта бесчалавечны не толькі ў дачыненні да “ніжэйшых рас”, але і да ўсяго жывога, людскага ва ўласным народзе.

Пад раманам стаяць даты напісання: “1942 — 1944, 1962 — 1964”. Яны па-свойму красамоўна сведчаць, як цяжка давалася кніга аўтару. І справа была не ў складанасці асэнсавання той рэчаіснасці, якую адлюстроўва пісьменнік, а найбольш у тым, што ягонае асэнсаванне ... укладвалася ў звыклыя для савецкай афіцыйшчыны стэрэатыпы. І яна ціснула на пісьменніка, прымушаючы яго перапрацоўваць нават ужо апублікаваны твор.

Янка Брыль, трэба аддаць яму належнае, і пры перапрацоўках паступіўся нямногім. Але, закранаючы савецкае жыццё, ён толькі скупымі штрыхамі і зноў жа прыглушана, а не на поўны голас мог сказаць пра беды часоў сталіншчыны, якая распраўлялася з сумленнымі людзьмі не менш крута, чым гітлераўскі фашызм.

Адзін з такіх штрыхоў — кароценькая згадка Алеся Руневіча пра “брата Сяргея, трагічнае загадкавае зняволенне (а можа і смерць?..) якога яшчэ ўзмацняла і так ледзь не легендарны ў сям 'і вобраз харошага і разумнага друга, якога ўжо, відаць, не будзе... Не піша Толя пра яго. Няма — і ўсё”.



*У хаце Янкі Брыля. Злева направа: Філіп Саламашанка — сват Я. Брыля, унукі Антон, Міхась, Данута, Вольга, Янка Брыль. 1984 г.*

Упамінаецца ў рамане і пра незразумелае для ягоных герояў знікненне ў СССР камуністаў Цімоха з Пасынкаў і Паўла Сурагі. У пошуках ратунку яны (кожны паасобку і ў розны час) уцякалі з “крэсаў усходніх” у краіну Саветаў, у якой бачылі радзіму “ўсіх працоўных”, але і там не знайшлі прытулку: Цімох быў аб'яўлены польскім шпіёнам і ворагам народа, Паўла таксама хутчэй за ўсё расстралялі. “Як зразумець усё гэта? Як спалучыць з цудоўным вобразам Радзімы?”, — пакутліва думае Алесь Руневіч. Гэта персанаж цалкам аўтабіяграфічны. А за вобразам Сяргея паўстае самы старэйшы брат Валодзя, які працаваў саўгасным заатэхнікам на Украіне і быў у 1938 г. бязвінна пасля цяжкіх катаванняў расстраляны бальшавікамі ў цяпер сумна вядомай, як нашы Курапаты, Быкаўні пад Кіевам. Пісьменнік ва ўсіх падрабязнасцях даведаецца пра гэта намнога пазней і раскажа ў дакументальнай аповесці “Муштук і папка” (1990). Там будзе гаворка і пра драматычныя павароты ў жыццёвым лёсе яшчэ аднаго пакутніка з вялікай сям'і Брылёў Ігната, які не пабаяўся стаць святаром у дзяржаве афіцыйнага атэізму і расплачваўся за сваю смеласць зняволеннем (працаваў у рангу зэка ў тайзе пад Марыінскам і на будаўніцтве вымашчанага чалавечымі касцямі Беламорска-Балтыйскага канала).

Згадвае там пісьменнік і пра тое, што ў 1941 г. на высылку прызначалася ягоная маці з тымі сямейнікамі, якія жылі ў Заходняй Беларусі. Але ў бальшавікоў тады не хапіла часу ажыццявіць гэтую рэпрэсіўную меру.

Словам, у “Муштуку і папцы” Я. Брыль, ужо свабодны ад цэнзурных забарон і ўзбагачаны веданнем многага з таго, што раней хавалася як непарушная дзяржаўная тайна, вынесе катэгарычны прысуд не толькі сталіншчыне, якая знішчала лепшых людзей як патэнцыяльна небяспечных для яе праціўнікаў. Ён пашле адкрыты праклён самому грамадскаму ладу, які трымаўся на вялікім падмане і жорсткім прымусе, непазбежна нараджаючы крывавых дыктатараў, што наводзілі жах на вялікую краіну, паралізуючы яе жывыя, стваральныя сілы. “Жахлівы махавік круціўся на ўсю няспынную сілу, жорны малолі, не буксуючы ў чалавечай крыві... судзілі не за што, а дзеля чаго. Чалавека трэба было знішчыць, камусьці гэта было патрэбна, і яно рабілася. З усёй каравасцю крыважэрнага хамства... такі быў час і лад”, — адкрытым тэкстам ад свайго ўласнага імя і з падкрэсліваннем ключавых слоў скажа Брыль у гэтай аповесці.

А ў “Птушках і гнёздах” і ранейшых творах такога прысуду нашай таталітарнай сістэме, гаворкі пра злачыннасць самога бальшавіцкага ладу яшчэ не было і быць не магло.

І ўсё ж на фоне іншых тагачасных твораў пра вайну нямецкі фашызм раман успрымаўся як наватарская з'ява ў савецкай літаратуры. Ён узбагачаў і ўласна выяўленчыя магчымасці беларускай прозы, паказваў, што пад пяром сапраўднага майстра беларускае слова можа зіхацець усімі гранямі і фарбамі. У гэтым творы выразна праявілася імкненне адступіць ад традыцыйна-эпічнага сюжэта, характэрнага для пераважнай большасці нашых раманаў той пары, але яўна непрыдатнага для Я. Брыля з відавочнай схільнасцю да лірызму і адкрытага выяўлення аўтарскіх эмоцый. Звыклыя рамкі строга эпічнай формы моцна абмяжоўвалі лірычныя рэгістры пісьменніцкага таленту. Таму мастак павінен быў шукаць нешта іншае. І ягоныя стылёвыя пошукі ў “Птушках і гнёздах” прынеслі свой плён. Яны нарадзілі арыгінальны сплаў эпічных і лірыка-псіхалагічных элементаў гэтага твора, вельмі шчырую, напружана-эмацыйную апавядальную плынь, незвычайную для нашай традыцыйнай рэалістычнай прозы тых часоў.

Яркай адметнасцю вылучаюцца і такія выдатныя аповесці, як “Ніжнія Байдуны” (1974-1975), вельмі шчодра выявілася брылёўская схільнасць да гумару, які мае выразную народную аснову, і “Золак, убачаны здалёк” (1978), дзе звяртае на сябе ўвагу, не толькі моц антываеннага пафасу, але зноў жа і стылёва-выяўленчая навізна, цікавая арганізацыя апавядальнай плыні, у якой спалучаецца некалькі часавых зрэзаў, надаючы параўнальна невялікаму твору значную ёмістасць і глыбіню.

Празаік неаднаразова падкрэсліваў сваю асаблівую прыхільнасць да лірычных мініяцюр: “Найбольш раскавана адчуваю сябе ў гэтым жанры “; “Тут я адчуваю сябе ў найбольшай ступені самім сабой, і сваю кнігу выбранага ў гэтым жанры чакаў як нечага самага важнага з усяго, што рабіў і раблю “ . “Мае мініяцюры могуць быць своеасаблівай “кнігай майго жыцця “, — калі яе папаўняць увесь час, адбіраць лепшае і больш значнае”. Зразумела, Я. Брыль так і робіць. Але жанравае вызначэнне “лірычныя мініяцюры” дакладна схоплівае характэрную прыкмету толькі часткі ягоных запісаў. На самой справе брылёўскія запісы маюць самую разнастайную жанравую прыроду. Яны па-свойму універсальныя ў сэнсе, што ніколі не падганяюцца пад адзін пэўны жанравы канон, а вызначаюцца і сэнсава-тэматычнай шматграннасцю, і эстэтычнай арыгінальнасцю. Тут і сапраўды лірычныя замалёўкі, якія ў скандэнсаваным выглядзе выяўляюць адметнасць Брыля-лірыка ў прозе, і філасофскі роздум аўтара над жыццёвымі з’явамі, і рэплікі з рознай нагоды, найчасцей па-брылёўску з’едлівыя, і гумарыстычныя сцэнкі, і запісы кур’ёзных, абуральных ці лроста нечым іншым адметных выпадкаў,! і размова пра некаторыя сакрэты пісьменніцкай лабараторыі (“з творчай аўтабіяграфіі”), і зафіксаваныя па свежых слядах ураженні аб прачытаным ці ўбачаным у тэатры, кіно, на мастацкай выстаўцы, і многае іншае. Але ўсё гэта натуральна і надзейна з’яднана каларытнай у сваёй непаўторнасці чалавечай асобай аўтара, якая знаходзіць у самых разнастайных запісах сваё нязмушанае, сапраўды свабоднае выяўленне. І яны, тыя запісы, становяцца спавядальным словам, якое падкупляе сваёй шчырасцю, адкрытасцю і, вядома ж, багатай змястоўнасцю, а яшчэ аўтарскай самакрытычнасцю, без якой спавядальная проза ператвараецца ў прозу самалюбавання і самазахопленасці. У канчатковым выніку брылёўскія запісы і лірычныя мініяцюры набываюць важкасць па-пісьменніцку яркага, незаменнага і неацэннага сваёй сумленнасцю сведчання пра духоўнае жыццё мастака і грамадскую атмасферу часу, асэнсаваную чалавекам дапытлівым і мудра-дасціпным.

Пра маштабы зробленага Янкам Брылём сведчаць і унікальная ў сусветнай літаратуры кніга пра пакуты беларусаў у мінулай вялікай вайне “Я з вогненнай вёскі...” (1975), створаная ў суаўтарстве з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам, і напісаныя з вялікім майстэрствам нарысы пра замежныя падарожжы і пра многіх дзеячаў беларускай і не толькі беларускай гісторыі і культуры, і добра вядомыя па кнігах “Роздум і слова” (1963), "Трохі пра вечнае” (1978) і іншых лублікацыях крытычныя артыкулы, якія з’яўляюцца ўзорамі прынцыповай пісьменніцкай крытыкі, шчодрай на пахвалу таленту і бескампраміснай у дачыненні да бяздарнасці і халтуры, і найцікавейшыя ўспаміны, у якіх заўсёды ёсць штосьці адметнае, нярэдка зноў жа унікальнае, выхапленае ўчэпістым вокам з жыццёвай плыні на доўгую памяць нашчадкам, і шматлікія пераклады з польскай, рускай, украінскай і іншых літаратур.

*Зміцер Бугаёў.*

*Анатоль Грыцкевіч*

# Бітва пад Клецкам 1506 г.

## *Да 500-годдзя перамогі беларускага войска*

5 жніўня гэтага года юбілейная дата. 500 год таму назад адбылася бітва пад Клецкам, у якой перамагло беларускае войска. Аднак шырокаму чытачу пра яе мала вядома, бо ў падручніках яна мала або зусім не згадваецца. Пісалі пра яе храністы ХУІ ст. звесткі пра Клецкую бітву ёсць у хроніках М. Стрыйкоўскага і Быхаўца. З польскіх гісторыкаў найбольш поўна пра бітву напісаў Ст. Гербет (1935). Згадваюць пра бітву і беларускія гісторыкі.

Міжнароднае становішча Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў канцы ХУ – пачатку ХУІ ст. было складаным. На ўсходнім кірунку ішла барацьба з Маскоўскім вялікім княствам за рускія землі.

У гэтай барацьбе перавага схілялася на маскоўскі бок. Вялікія князі маскоўскія ў серыі войнаў пачалі далучаць усходнія землі Беларуска-Літоўскага гаспадарства да сваёй дзяржавы.

Не менш важным кірункам знешняй палітыкі быў і паўднёвы – дачыненні з татарамі. Каб забяспечыць ад татарскіх нападаў украінскія землі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, вялікія князі Беларуска-Літоўскай дзяржавы намагаліся ўстанавіць больш прыязныя адносіны з татарскімі ханамі і супрацьстаўляць адных ханаў другім у часе распаду Залатой Арды. Так, у сярэдзіне ХУ ст. вялікі князь Казімір Ягайлавіч і паны-рада вылучылі аднаго з нашчадкаў Чынгіс-пана і падтрымалі Хаджы-Гірэя, які быў у Кіеве ў 1449 г. на нарадзе прадстаўнікоў Казіміра з крымскімі татарскімі мурзамі зацверджаны крымскім ханам. Стварэнне Крымскага ханства, зразумела, аслабіла Залатую Арду. Аднак праз некаторы час Крымскае ханства ператварылася з саюзніка ў ворага. З гледзішча перспектывы дапамога крымскім татарам супраць залатаардынскіх ханаў была стратэгічнай памылкай вялікіх князёў літоўскіх.

Ужо з канца ХУ ст. крымскі хан Менглі-Гірэй, уступіўшы ў саюз з вялікім князем маскоўскім Іванам III, які вёў войны з Беларуска-Літоўскай дзяржавай, пачаў амаль штогод нападаць на украінскія землі. Крымскія татары рабавалі і знішчалі гарады і сёлы, забіралі ў палон для продажу ў няволю ў Турцыю тысячы палонных, у асноўным моладзь ("ясыр"). Спачатку напады былі на Падольскую, Валынскую і Кіеўскую землі, на поўдзень ад якіх быў бязлюдны стэп. Потым татарскія напады дасягалі Перамышля, Яраслава і Мобліна. У 1497 г. татары напалі і на Палессе, недалёка ад Мазыра яны забілі кіеўскага мітрапаліта.

У 1502-1506 гг. крымскія татары ўжо рэгулярна нападалі на Беларусь, таксама рабуючы гарады і сёлы, забіваючы жыхароў або беручы іх у палон.

Адным з найбольш спусташальных нападаў быў паход у Беларусь у 1505 г. татарскага войска на чале з сынамі крымскага хана Менглі-Гірэя – "царэвічамі", як іх называлі ў беларускіх летапісах, Махмет-Гірэй-Салтанам, Біты-Грэй – Салтанам і Бурнаш – Салтанам. Поспех гэтага пахода натхніў крымскага хана на новы паход у наступным, 1506 годзе.

У канцы траўня 1506 г. царэвічы Біты – Грэй і Бурнаш – Салтан выступілі з Крыму ў новы паход. Розныя гістарычныя крыніцы даюць розныя звесткі аб колькасці татараў – ад 6-12 да 30 тысяч.




Прайшоўшы Валынь і Палессе, у ліпені 1506 г. татарскае войска праз Брагін, Мазыр і Петрыкаў падышло да Слуцка, але не ўзяло яго, а пайшло далей да Клец-ка, які быў спалены імі ў адзін з папярэдніх нападаў. Тут, ля Клецка царэвічы паставілі свой галоўны лагер ("Кош") і адсюль распусцілі загоны да Менска, Ліды, Ашмянаў, Крэва, Наваградка, Ваўкавыска і Гародні для рабункаў і здабычы "ясыру".

З-за нечаканасці і імклівасці татарскага нападу войска Вялікага Княства Літоўскага адразу не магло сабрацца. Толькі 20 ліпеня звесткі аб нападзе крымскіх татараў дайшлі да Ліды, дзе ў гэты час знаходзіўся вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр Казіміравіч і яго жонка Алена Іванаўна, дачка маскоўскага вялікага князя Івана III.

Разам з вялікім князем былі яго прыдворныя ("дваране") і скарб. Аляксандру Казіміравічу паведамілі, што татарскія чамбулы (аддзелы) знаходзяцца на адлегласці аднаго пераходу ад Ліды Будучы ўжо хворым, Аляксандр загадаў адвезці яго ў Вільню і даручыў сабраць апалчэнне, "службу земскую", з баяраў – шляхты. Камандаваць сабраным войскам Аляксандр даручыў гетману вялікаму літоўскаму Станіславу Кішку і Маршалку дворнаму князю Міхаілу Львовічу Глінскаму. Сам вялікі князь Аляксандр, ужо смяротна хворы, 25 ліпеня вярнуўся ў Вільню.

Спехам удалося сабраць ля Ліды толькі апалчэнне гарадзенскіх, наваградскіх, менскіх і слуцкіх баяраў, невялікі аддзел наёмных жаўнераў- "рацаў" (сербаў) і надворную польскую харугву (400 коннікаў) і 2 гарматы. Уяго сабралася 7-тысячнае войска, у пераважнай большасці беларускай шляхты. Некалькі дзён гэтае войска стаяла ля Наваградка, каб атрымаць ад вайсковай выведкі дакладныя звесткі аб перасоўванні супраціўніка і каб сабраць усе свае сілы.

Калі камандаванню стала вядома, што ля Клецка знаходзіцца "Кош", а шмат загонаў рассыпалася ў розныя бакі для рабункаў, і яшчэ не вярнулася, было прынята рашэнне імклівa ісці да галоўнага лагера крымскіх татараў і разграміць тыя сілы ворага, што там засталіся. Вечарам 3 жніўня беларускае войска рушыла на Клецк, не ўзяўшы з сабою абозу, для хуткасці руху.

Раніцай 4 жніўня беларускае войска дайшло да Асташына, на ўсход ад Наваградка. Тут даведаліся ад уцекачоў, што татары рабуюць бліжэйшыя мясцовасці. Пасля кароткага адпачынку войска рушыла на Паланечку, на поўдзень ад Міра. Па дарозе войска сустрэла адзін з татарскіх чамбулаў і пачало яго праследаваць. Ужо за Ішкалдзю (цяпер Баранавіцкі раён), карыстаючыся паралельнай дарогай, беларускае войска дагнала татараў, выцяла іх з двух бакоў і разбіла іх аддзел.

На ноч войска спынілася ў Нялепаве і каля яго за 20 кіламетраў ад Клецка. Тут гетман Станіслаў Кішка захварэў, і вайскамі пачаў камандаваць Міхаіл Глінскі. Тут , у Нялепаве было прынята важнае рашэнне М. Глінскі разлічыў, што выт на Клецк па дарозе з Наваградка дасць магчымасць татарам адступіць у паўднёва-усходнім кірунку (на Цэпру і далей на Тураў), і вырашыў бакавымі дарогамі выйсці на дарогу з Піска да Клецка, каб ударыць на "Кош" з паўднёвага ўсходу і не даць магчымасці татарам адступіць.

Гэты абходны манеўр не быў заўважаны камандаваннем крымскіх татараў, таму што з поўдня ад Клецка знаходзіўся лес і узгорак. Раніцай 5 жніўня 1506 г. беларуская конніца падыйшла з поўдня да Клецка і спынілася ля ракі Лань. Татары хутка падрыхтаваліся да бітвы і стаялі ўжо на другім беразе Лані. У "кошы" была палова татарскага войска, рэшта рабавала і знішчала ваколіцы Менска (за 90 кіламетраў ад Клецка). Ашмянаў (за 150 км) і Ваўкавыска (за 120 км.). У "кошы" таксама знаходзіўся "ясыр", які пільнавала малая частка татарскага войска. Татары і не думалі аб адступленні, бо не хацелі страціць нарабаванае і палонных, а таксама пакінуць на знішчэнне свае "чамбулы", якія яшчэ не вярнуліся ў "кош". Царэвічы вырашылі даць бой, разлічваючы на выгаднае становішча свайго войска, бо масты праз Лань былі знішчаны, А багністая даліна ля ракі перашкаджала наступу беларускага войска.

Некалькі гадзін ішла перастрэлка. Татары з лукаў абстрэльвалі шэрагі войска М. Глінскага, а беларускія воіны абстрэльвалі татараў з агнявой зброі і лукаў. Каля поўдня былі знойдзены броды праз раку і пад татарскім абстрэлам пабудаваны дзве гаці з дрэва, дошак і і галля, у паўкіламетра адна ад другой.

Беларускае войска было зшыхтавана ў дзве калоны, кожная ля сваёй пераправы. Міхаіл Глінскі даў каманду пачаць наступ. Коннікі пачалі пераправу праз Лань ля двара Красны Стаў. Бітва пачалася з няўдачы для беларускага войска. Невялікі аддзел маршалка вялікага літоўскага Яна Забярэзінскага вырваўся наперад, быў абкружаны татарамі і амаль цалкам знішчаны. Правая калона войска пераправілася хутчэй. І па ёй выцялі галоўныя сілы татараў, нанёсшы вялікія страты. Татары спынілі наступ гэтай калоны.

Тады М. Глінскі, выпраўляючы сітуацыю, прыспешыў наступ левай калоны. Яго конніца, выцяўшы на слабую тут абарону татараў, разрэзала татарскае войска на дзве часткі і выцяла з тылу на галоўную масу войска супраціўніка, якая змагалася з правай калонай. У гэты час і правая калонай. У гэты час і правая калона пачала наступ. У выніку агульнага наступу крымска-татарскае войска было разбіта, шмат іхніх ваяроў палегла на месцы. Аднак частцы татараў на чале з царэвічамі ўдалося прарвацца да ракі Цэпры і ўцячы Частка з уцекачоў была ўжо знішчана падчас іх пераследавання. Войскі М. Глінскага знішчалі ўцекачоў нават па ўкраінскіх дарогах. Да 8 жніўя адбывалася знішчэнне татарскіх аддзелаў, што вярталіся са здабычай да свайго "коша", не ведаючы пра бітву.

У пераследаванні татараў прымала ўдзел і харугва слуцкіх баяраў. Як пісаў у сваёй хроніцы М. Стрыйкоўскі: "Настасся, княгіня Слуцкая, сваіх баяраў паслала пераняць напужаных татараў. Іх шмат пад Капылём было пабіта. І ля Пятрэвіц горлам заплацілі мыта." (Пятровіцы – гэта цяперашні Петрыкаў).

У хроніцы Быхаўцы пра вынікі бітвы гаворыцца

*"Князь жа Міхайла з усім войскам гнаўся за імі, ловячы і забіваючы, да ракі Цапры" і далей. " мноства іх злавілі ды забілі і вярнуліся да Клецка, ведучы з сабою шмат палонных. І, напоўнішы рукі золатам ды срэбрам, і зброяй, і адзежаю, і коньмі дарагімі, у невымоўнай радасці і весялосці тую ноч пераначавалі спакойна."*

Было ўзята ў палон 3 тысячы татараў. Паводле гістарычных звестак, частку іх пасялілі ў Клецку і ваколіцах. Пераможцы вызвалілі каля 40 тысячаў палонных, якіх татары збіраліся адвесці ў Крым. Войску М. Глінскага дасталася таксама 30 тысячаў коней з былога татарскага войска.

Перамога беларускага войска пад Клецкам 1506 годзе мела вялікае значэнне ў гісторыі Беларусі. Пасля разгрому крымскіх татараў ў бітве ля Клецка татарскія напады на Беларусь у такім маштабе, як у пачатку ХУІ ст. ужо не адбываліся. Можна налічыць толькі некалькі нападаў у першым дзесяцігоддзі ХУІ ст. і то малымі сіламі з тых аддзелаў, што нападалі на Украіну. Гэтыя напады хутка перапыняліся беларускім вайсковым апалчэннем. Клецкая бітва 1506 г. дала баявы досвед беларускаму войску ў далейшым змаганні з крымскімі татарамі на Украіне, а таксама ў бітвах з Маскоўскім вялікім княствам.






# ЛІДЧЫНА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пры Гудскім СДК даўно і стала прапісаўся і сямейны ансамбль Сахонь з пасёлка Маладзёжны (г. Ліда) таленавітая і дружная сям'я: тата Мікалай, матуля Лідзія і іх дзеці Святлана, Оля і Віталік.



**Сямейны ансамбль Сахонь**

Гісторыя стварэння сямейнага ансамбля незвычайная. Аднойчы Лідзію Сахонь, якая дарэчы працуе музычным работнікам у дзіцячым садку папрасілі прыняць удзел у аглядзе сямейнай творчасці. Было гэта 17 снежня 1993 г. Адхіліць просьбу калег было няёмка, і нечакана ўзнік новы творчы калектыў. З самага пачатку не было двух меркаванняў наконт выбару творчага кірунку. Народныя мелодыі сумныя і вясёлыя, лірычныя і гарэзлівыя не раз пакаралі ўдзячнага гледача. Усе гады ансамбль выступаў на раённых святах, аглядах мастацкай самадзейнасці. У 1994 годзе атрымаў дыплом удзельніка III дзіцячага фестывалю польскай,песні ў Гародні. У 1997, 1998 г.г. Саюз палякаў на Беларусі ўзнагароджвае ансамбль дыпломамі за ўдзел у аглядзе калядных ансамбляў. У 1995 г. калектыў запрашаюць у Польшчу на IV, а ў 1996 - на V міжнародныя спатканні музычных сямей - Добрэ Място, дзе з поспехам выступае і атрымлівае запрашэнні на 1997,1998,1999 гады.

Самым плённым для калектыву быў 1997 год, калі яны прымалі ўдзел у II абласным фестывалі сямейнай творчасці. У гэтым жа годзе 21 снежня у г. Слоніме яны сталі лаўрэатамі Рэспубліканскага фестывалю сямейнай творчасці.

Мноства цікавых уражанняў прывезлі ўдзельнікі калектыву у 1999 г., калі пабывалі на VII міжнародных Наваградскіх спатканнях з фальклорам. Вось радкі падзякі дырэктара фестывалю: "Дзякуем за прыгожыя песні,за дынаміку і прафесіянальную прэзентацыю Вашай Рэспублікі, за ўсмешку і добрую забаву. Успаміны пра Вас застануцца доўга ў нашых сэрцах". У 2002 г. сямейны калектыў атрымаў найменне "народны". І зноў гастролі ў Рэспубліцы Польшча - 2000, 2001, 2002, 2003, 2004 гг.

У рэпертуары ансамбля беларускія, рускія, украінскія, польскія песні.

У рабоце ансамбль выкарыстоўвае баян, скрыпку, 2 гармонікі, барабан, бубен, лыжкі, трашчоткі, званочкі, фартэпіяна.

Бо́льшасць твораў, якія выконвае гэты калектыў, кіраўнік ансамбля - Лідзія Сахонь, запісвае ў мясцовых музыкантаў, а потым апрацоўвае іх, наведвае вёскі і запісвае фальклорныя песні і музыку.

Ансамбль мае сваю, індывідуальнасць, непаўторнае творчае аблічча. У планах шмат разнастайных задумак. Калектыў з захапленнем і натхненнем працуе над іх ажыццяўленнем, адраджэннем народных традыцый, зберажэннем спадчыны роднай Лідскай зямлі.

**Маршрут № 2.**

**ШАЙБАКІ,** вёска Трацякоўскага сельсавету. Знаходзіцца пры рацэ Лідзейка, непасрэдна зліваецца з паўднёва-ўсходняй ускраінай Ліды. На пачатку XX ст. вёска Лідскай воласці Лідскага павету, 167 жыхароў, 148 дзесяцін зямлі. У 1921 — 1939 гг. у складзе Польшчы. Паводле польскага перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Лідскай гміны Лідскага павету Наваградскага ваяводства, 33 жылыя пабудовы, 185 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 143 падвор'і, 380 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 145 двароў, 341 жыхар.

Назву вёскі паводле мясцовага падання звязваюць з імем хана Шайбака, які быў разбіты ў раёне цяперашняга Шайбак-поля (Шчучынскі раён). Ці то ў Шайбаках татары закапалі скарб хана Шайбака, ці то тут пасяліл палонных з разгромленай арды Шайбака.

У Шайбаках нарадзіўся і пражыў сваё нядоўгае жыццё лідскі краязнавец Антось Савук.



**Антось Савук**

***Антось Савук** (сапр. Антон Уладзіміравіч Саук, 13.02. 1968 - 27.11.2003), карэспандэнт часопіса "Лідскі летапісец", сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў, сябар Лідскага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.*

*Антось Савук вёў актыўную і рознабаковую краязнаўчую і даследчую працу, склаў дастаткова шырокі Лідскі біяграфічны даведнік, апублікаваў шэраг краязнаўчых даследванняў у "Лідскім летапісцы" і іншых перыядычных выданнях ("Вацлаў Іваноўскі. 120 гадоў з дня нараджэння", "Жывапісец паганскай Літвы. Казіміру Альхімовічу – 160 год з дня нараджэння". "Друкар з Вялічак. 390 год з дня смерці Яна Карцана", "Паслядоўнік Лінэя. 240 год з дня нараджэння С. Б. Юндзіла", "Праз турму і katаванні. Светлай памяці ксендза Ч. Янкоўскага" і інш.)*

*Але асноўнай яго краязнаўча-даследчай працай стала "Гісторыя Лідскага аэрадрома", якая публікавалася ў "Лідскім летапісцы", пачынаючы з 2001 года. У шасці нумарах апублікаваны першы раздзел "Лідскі вайсковы аэрадром (1907 - 1915)", і пачатак другога раздзелу "Лідскі вайсковы аэрадром (1919 - 1939)".*

**МІНОЙТЫ,** вёска Трацякоўскага сельсавету. Знаходзіцца за 12 км на паўднёвы ўсход ад г. Ліда. У XIX ст. вёска Ганчарскай воласці Лідскага павета Віленскай губерні. На 1896 г. дзейнічала школа царкоўнага пісьменства Ганчарскага прыходу, у якой навучалася тады 17 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. На пачатку XX ст. — 152 жыхары, 99 дзесяцін зямлі. У 1921 — 1939 гг. у складзе Польшчы. Паводле польскага перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Ганчарскай гміны Лідскага павету Наваградскага ваяводства, 26 жылых пабудоў, 148 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 377 падвор'яў, 1420 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 428 двароў, 1462 жыхары.

У 2006 годзе Мінойты сталі вядомыя ўсёй Беларусі ў сувязі з тым, што сюды перавезлі з Менска **бібліятэку Саюза беларускіх пісьменнікаў**.

**ВЯЛІЧКІ,** вёска Трацякоўскага сельсавету. Знаходзіцца за 11 км на паўднёвы ўсход ад г. Ліды. На пачатку XX ст. вёска Ганчарскай воласці Лідскага павету, 132 жыхары, 184 дзесяціны зямлі. У 1921 — 1939 гг. у складзе Польшчы. Паводле польскага перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Ганчарскай гміны Лідскага павета Наваградскага ваяводства, 28 жылых пабудоў, 156 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 56 падвор'яў, 120 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 46 двароў, 80 жыхароў.

**ВЯЛІЧКАЎСКАЕ ВОЗЕРА**

*(Легенда)*

Даўным-даўно ля дарогі (цяпер шаша Ліда—Наваградак) стаяла вялікая вёска Вялічка. Людзі жылі ў ёй багата. Толькі на канцы вёскі ад дарогі жыла бедная ўдава з маленькімі дзецьмі.

Аднойчы ў вёску прыйшоў жабрак, стары сівы дзядок. Ён абхадзіў усе двары, але яму ніхто нават і скарынку ў торбу не кінуў. Зайшоў дзед і да ўдавы. Ужо вечарэла, і дзядок папрасіўся нанач. Жанчына ласкава запрасіла старога сесці і дала паваўчэраць міску нішчымнай заціркі. На гэтую зацірку яна заварыла апошнюю жменю жытняй мукі. Жабрак застаўся начаваць.

Назаўтра жанчына ўстала і здзівілася: у хаце і ў каморы было многа хлеба і ўсяго іншага. А дзед ёй сказаў:

— Выйдзі, кабета, з хаты з дзецьмі і ідзі не азіраючыся, хоць што-небудзь і пачуеш. Як азірнешся, то на месцы тваёй хаты вырасце груша.

Жанчына так і зрабіла. Толькі яна адышла за вёску, як пачула ззаду трэск, шум і енк людзей. Усё крышылася і ламалася. Вёска прапала, а на яе месцы ўтварылася возера, а замест хаты ўдавы на беразе возера стаяла груша. Жанчына павярнулася, хацела пайсці паглядзець, што здарылася, але тут жа ператварылася ў камень. На другі дзень людзі з суседніх вёсак бачылі, як з возера выплывалі аконныя рамы, дзверы і іншая хатняя дробязь. Людзі пачалі збіваць жэрдкі, каб памераць дно, то з вады чалавечы голас сказаў:

— Не мерай тычыною, бо памераеш галавою.

Усё ж такі самыя цікаўныя ўзялі доўгую вяроўку, прывязалі камень і апусцілі на дно. Дна не дасталі, а з вады пачуўся голас:

— Не мерай вяроўкаю, бо памераеш галоўкаю.

Адзін чалавек пры гэтым утапіўся, і яго як ні шукалі, не маглі знайсці, хоць возера было невялікае. Цяпер на беразе Вялічкаўскага возера расце старая груша і ляжыць вялікі камень з адбіткам быццам бы рухі жанчыны.

***Запісана ў 1966 годзе ў в. Ганчары ад 43-гадовай Ганны Мікалаеўны Буян і ў 1953 годзе ў в.Мазгавая Наваградскага р-на. Вядомы яшчэ тры аналагічныя варыянты. Паданне абвяргае меркаванне аўтара "Кароткага тапанімічнага слоўніка" Вадзіма Жучкевіча, што назва вёскі і возера паходзіць ад прозвішча Вялічка.***

У Вялічках нарадзіўся адзін з беларускіх першадрукароў **Ян Карцан.**

*Антось Савук*

**Друкар з Вялічак**

Ёсць на Лідчыне такая вёска Вялічкі. Адсюль, паходзіў адзін з знакамітых друкароў нашага краю Ян Карцан. Біяграфічных звестак пра гэтага чалавека амаль не захавалася. Невядома, у якім годзе ён нарадзіўся. Затое, дакладна вядомы год смерці - 1611. І жыццёвы шлях яго можна прасачыць толькі па дайшоўшых да нашага часу выдадзеных ім кнігах. Справе свайго жыцця Ян Карцан навучаўся ў Кракаве.

На небасхіле друкарскай справы імя нашага земляка ўпершыню з'явілася ў мястэчку Лоск (Валожынскі р-н), дзе ён змяніў на пасадзе выдаўца Данііеля Лянчыцкага, што працаваў у магната Яна Кішкі і выехаў у Вільню. У 1576 годзе выходзяць з так званай Замкавай друкарні Яна Кішкі сачыненне Сымона Буднага "Аб артыкулах веры" і праца Цыцэрона "Аб павіннасцях", пераложаная на польскую мову С. Кашуцкім...



O powinnościach

...

Drukowano w Wilnie v Jana
Karcana z Wieliczki.
Roku 158?.

***Кніга Цыцэрона "Аб павіннасцях", надрукаваная Янам Карцанам у Лоску 430 гадоў таму назад***

За час працы ў Лоску з 1576 па 1580 г.г. Карцан выпусціў сем кніг: пяць на польскай мове і дзве на лацінскай. Пасля гэтага імя Карцана сустракаецца на выданнях, што выходзяць у Вільні.

... За трыццаць год працы з 1580 г. па 1611 г. Ян Карцан выдаў 101 кнігу на польскай, лацінскай і грэчаскай мовах; у тым ліку – сачыненні антычных аўтараў – 11, на маральна-этычныя тэмы – 4, навукова-вучэбная літаратура - 7, па медыцыне - 3, на палітычныя тэмы – 10, апісанне вандровак - 3, календары – 3, палемічная літаратура – 9, панегірыкаў – 22, тэалагічнага характару – 21, на іншыя тэмы – 8. Для свайго часу друкарня Карцана ўяўляла сабой добра абсталяванае паліграфічнае прадпрыемства. Сярод друкарскага матэрыялу былі самыя розныя шрыфты: гоціка, анціква, курсіў, грэчаскі алфавіт, багаты набор гравіраваных ініцыялаў, арнаментальных упрыгожванняў. Кнігі выдаваліся вельмі хутка. Сам Ян працаваў у друкарні над наборам кніг, перадаючы свой досвед і веды іншым супрацоўнікам...

Пасля смерці Яна Карцана ў 1611 годзе справа бацькі разам з друкарняй перайшла яго сыну Іосіфу. Так на тытуле кнігі П. Скаргі "Заклік да адзінай веры" можна знайсці надпіс, дзе пазначана, што кніга надрукавана ў Вільні і яе выдаў Іосіф Карцан ў 1611 годзе...



# ЛІДЧЫНА




**ДАРЖЫ,** вёска Ганчарскага сельсавету. Знаходзіцца за 15 км на паўднёвы ўсход ад раённага цэнтра Ліда, за 5 км ад чыгуначнай станцыі Ганчары, на рацэ Дзітва.

На 1.1.1996 г. - 128 падвор'яў, 440 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 122 двары, 382 жыхары.

За 1 км на поўнач ад вёскі знаходзіцца стаянка, а каля паўноч. захаду дзюны Боркава гара - крэмнеапрацоўчая майстэрня каменнага веку.

**СЯЛЕЦ,** вёска Ганчарскага сельсавету. Знаходзіцца за 25 км на паўднёвы ўсход ад г. Ліды, на рацэ Нёман, пры чыгуначнай станцыі Нёман.

Сялец (Селіца, Сяліца) упершыню згадваецца ў лістапе пад 1406 годам. Старастам лідскім у гэты час быў Якуб з Селіцы. Паводле тутэйшага падання менавіта гэты Якуб з Селіцы вадзіў лідскую харугву на Грунвальдскае поле.

У XIX — пачатку XX ст. вёска Ганчарскай воласці Лідскага павета. У 1880 і 1890-ыя гг. працавалі карчма, вінакурны завод (каля вёскі), школа царкоўнага пісьменства (адносілася да Беліцкага прыхода, адкрытаў 1895 г.). На пачатку XX ст. — 397 жыхароў, 486 дзесяцін зямлі. З 18 сакавіка 1921 да верасня 1939 г. у складзе Польшчы, вёска Ганчарскай гміны Лідскага павету Наваградскага ваяводства. На 30 верасня 1921 г. — 55 жылых дамоў, 308 жыхароў. З канца чэрвеня 1941 да ліпеня 1944 г. вёска акупавана фашысцкімі войскамі. 23 ліпеня 1941 г. гітлераўцы расстралялі 50 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 184 падвор'і, 384 жыхары.

На 1.1.2004 г. — 155 двароў, 273 жыхары.

У Сяльцы жыве краязнавец **Мікола Дзікевіч.**



Мікола Дзікевіч.

***ДЗІКЕВІЧ Мікалай Мікалаевіч,*** *нарадзіўся 20 верасня 1924 г. у в. Дзітрыкі. Беларус. Закончыў гадзічны Лідскі педагагічны тэхнікум (1945). 8 студзеня 1946 г. прызваны ў шэрагі Чырвонай арміі, дэмабілізаваны 4.02.47 у годнасці "малодшы сяржант". Настаўнік у школах Лідскага раёна. Да выхаду на пенсію працаваў выкладчыкам фізкультуры ў Нёманскай школе. Узнагароджаны знакам ДТСААФ "За актыўную работу" (1975). Аўтар шэрагу краязнаўчых публікацый, а таксама гістарычна-этнаграфічнага эсэ "Дзітрыкі: згукі заснуўшай цывілізацыі" (друкавалася ў часопісе "Лідскі летапісец" з 2001 г.). Гэтае эсэ мае ўсе падставы лічыцца лепшым творам такога жанру ў Беларусі пачатку 21-га стагоддзя.*

Недзе, каля Нёмана, у той ці іншы бок ад Сяльца жыла **Адэля з Устроні.**

*Гэтае імя было вернута ў нашу літаратуру з бяспамяці зусім нядаўна. Вярнуў яго рупны даследчык беларускага пісьменства Адам Мальдзіс, які ў 1970 годзе ў моры рукапісаў Ягелонскай (універсітэцкай) бібліятэкі ў Кракаве знайшоў невялікую, напісаную лацінкай паэму на беларускай мове "Мачыха ". У канцы твору значылася імя аўтаркі - Адэля, яе радзіма - Устронь і дата напісання твору - 1850. Адам Мальдзіс перака-наўча паказаў што Адэліна Устронь - гэта вёска ў Ганчарскай былой воласці Лідскага павету. Прозвішча ж аўтаркі верша пакуль што выявіць не ўдалося.*

*У пачатку 20-га стагоддзя ў Ганчарскай воласці было вядома 20 Устроняў: 2 фальваркі Ленскага і 18 засценкаў - Куцкеля, Беняша, Кушняка, Мурына, Дзевятовіча, Дудзіча (2), Канановіча, Рымкевіча, Цахавецкага, Шута, Урбановіча (3), Буяка (2), Уласава, Піятроўскага. У засценках жыло ад 4 да 18 чалавек і абдымалі яны ад 3 да 20 дзесяцін. У фальварках Ленскага жыло 44 чалавекі на 503 дзесяцінах.*

*Некаторыя з Устроняў мелі другія назвы: Лапа, Паскі, Боркі, Чорны Лес.*

*За паўстагоддзя ад моманту напісання Адэляй з Устроні паэмы "Мачыха " ў Устронях магло шмат чаго змяніцца, але не выключана, што Адэля магла насіць адно з пералічаных прозвішчаў.*

*У тым жа самым рукапісе Адам Мальдзіс знайшоў і верш гэтай жа аўтаркі на польскай мове "Кракаў ", у якім расказваецца пра пажар у горадзе - мяркуецца, у час рэвалюцыі 1848 года, і выказваюцца розныя прароцтвы.*

**Па зямлі віхор пагнаўся,**
**З буйным ветрам паспіраўся.**
**Віхар туманочкам ляцеў,**
**Чорну буру відзець хацеў.**
**Бура да Нёмана хадзіла**
**І чысту воду муціла,**
**І з беражочка ў беражочак**
**Калыхала ўвесь Нямночык...**

***(З "Мачыхі")***

**БЕЛІЦА,** вёска, цэнтр сельсавету. Размясцілася на перакрыжаванні дарог, якія ідуць у Дзятлава, Шчучын, Масты, Ліду, на правым беразе Нёмана. Побач з вёскай выяўленыя старажытныя стаянкі эпохі позняга палеаліту і, акрамя таго, бескурганны магільнік.

Вядомая па пісьмовых крыніцах з 1377 года, Беліца паспела пабываць і вялікакняскім валоданнем, і цэнтрам староства, і сталіцай павету. Патрапіўшы ў рукі Радзівілаў малодшай лініі, яна ператварылася пры іх у пратэстанцкі цэнтр, у якім праводзіліся сіноды кальвіністаў. Уладальнікі Беліцы ўзвялі тут свой замак, а пазней, у першай палове XVII стагоддзя, на яго месцы - сядзібу.

Яшчэ ў сярэдзіне XVI стагоддзя тут з'явілася царква, чыё месца ў канцы XIX стагоддзі заняў сціплы драўляны Крыжаўзвіжанскі храм. Яе сілуэт ажыўляюць толькі невялікая васьмерыковая вежа-званіца з верхавінай ды цыбульны купал над абсідай. Побач з царквой - новыя могілкі, а на старых можна ўбачыць каталіцкую святыню ў імя Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай, простую па кампазіцыі і падобную па сілуэце з царквой. У арачнай нішы франтона ўсталяваная драўляная скульптура Хрыста.



*Крыжаўзвіжанская царква ў Беліцы*

Захавалася ў Беліцы і яўрэйскія могілкі, а непадалёк ад вёскі нядаўна з'явіўся помнік ахвярам Халакосту.

Па польскаму перапісу ад 30.9.1921 г., у Беліцы 293 жылыя пабудовы, 1506 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 372 падвор'і і 965 жыхароў.

На 1.1.2004 г. - 287 двароў, 678 жыхароў.

**ЗБЛЯНЫ,** вёска Беліцкага сельсавету. Знаходзіцца за 38 км на поўдзень ад раённага цэнтра Ліда, за 15 км ад чыгуначнай станцыі Нёман. Паводле пісьмовых крыніц XIX — пачатку XX ст. — сяло Збляны (Зябляны) пры рацэ Нёман Беліцкай воласці Лідскага павету. У 1864 г. адкрыта народнаая навучальня. Тут дзейнічае **Пакроўская царква.**

Збляны вядомы як даўні цэнтр ручнога мастацкага ткацтва. Посцілкі, ручнікі вызначаліся разнастайнасцю арнаменту, іх узоры мелі розныя колеры. Многія вырабы народных мясцовых ткачых зроблены з высокім густам, маюць выразнае рашэнне, з'яўляюцца сапраўднымі творамі мастацтва. Традыцыі народнага ткацтва захоўваюцца да цяперашняга часу. Посцілкі мясцовых ткачых адметныя мажорным колеравым ладам. Характэрная кампазіцыя: папярочныя палосы («вясёлкі»), пераважна жоўтага, зялёнага, сіняга, малінавага, фіялетавага і чорнага колеру. У 1960-ыя гг. вялікае пашырэнне атрымала новая кампазіцыя, якая будуецца на чаргаванні папярочных шырокіх гладкіх і ўзорыстых палос. Узоры маюць тры элементы — «дарогі», «зубчыкі», шматпялёсткавыя разеткі. Гэтым дасягаецца разнастайнасць арнаменту. Звычайна на чорным або карычневым фоне размяшчаюць узорыстыя палосы розных мажорных колераў. Вытанчаная каларыстычная гама, асабліва ў кампазіцыі «вясёлка», выразнае рашэнне, высокае ткацкае майстэрства робяць гэтыя рэчы сапраўднымі творамі мастацтва. У апошні час ткуць посцілкі пераважна ў мясцовых традыцыях у тэхніцы перабору і закладання. У вёсцы здаўна бытавалі іншыя хатнія промыслы: прадзенне, шыццё адзення з дамотканіны, пляценне лапцяў, віццё вяровак, выраб простай мэблі і інш., якія служылі галоўным чынам для задавальнення патрэб сям'і. Некаторыя жыхары наймаліся нарыхтоўваць лес, дровы, піламатэрыялы да памешчыкаў і прамыслоўцаў, а таксама сплаўляць лес па мясцовых рэках. З 18 сакавіка 1921 да 1939 г. — у складзе Польшчы, вёска Беліцкай гміны Лідскага павета Навагрудскага ваяводства. На 30 верасня 1921 г. — 73 жылыя пабу-довы і 377 жыхароў.

Сумежна з вёскай знаходзілася калонія Збляны (17 жылых пабудоў, 91 жыхар). У 1971 г. налічвалася 119 двароў, 385 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 97 падвор'яў, 214 жыхароў. У вёсцы ёсць магазін, клуб, бібліятэка.

На 1.1.2004 г. - 68 двароў, 118 жыхароў.

Недзе ў канцы 40-х - пачатку 50-х у Зблянах быў створаны славуты Зблянскі народны хор. Наогул, вёска Збляны была вельмі спеўнай. Былі сем'і, у якіх спявалі ўсе, да апошняга чалавека. Да стварэння хору спрычыніўся Астап Каштан. Зблянскі хор быў своеасаблівым папярэднікам усіх сучасных фальклорных калектываў Лідчыны. Хор распаўся з-за натуральнага старэння яго ўдзельнікаў і змяншэння насельніцтва вёскі Збляны.



*Зблянскі народны хор*

**ЗБЛЯНЫ,** хутар недалёка ад вёскі. Знаходзіцца за 37 км на поўдзень ад раённага цэнтра Ліда, за 15 км ад чыгуначнай станцыі Нёман.

На 1.1.1996 г. — 29 падвор'яў і 60 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 25 двароў, 40 жыхароў.

На хутары Збляны створаны **фальклорны калектыў**, які працуе пры Парэцкім сельскім клубе.

***Фальклорны калектыў хутара Збляны*** *складаецца з 14 удзельнікаў;*

*Жанчыны спяваюць больш за 20 гадоў. Пры Парэцкім сельскім клубе спяваюць больш за 6 гадоў. У іх рэпертуары беларускія народныя песні: "Ой у лузе каліна стаяла", "Цячэ вада хаця мутна", "Капаў, капаў крынічаньку", "Ой не свеціць месячыку", "Ой пайду я выйду", "Чаму ж не прыйшоў", "Там за гаем зяляненькім", "Ой сівы конь бяжыць", "Цвіце тэрэнь", "Па садочку шпацыравала", "Як прыйду ды кумкі", "У агародзе лебяда" і шматлікія інш. песні.*

*Акрамя песень спяваюць частушкі. Танчаць беларускія народныя танцы, "Кракавяк", "Падыспань", "На рэчаньку", "Акуліна", "Амбэрак", "Полька" і мн. іншыя.*



*Фальклорны калектыў хутара Збляны*

*На базе фальклорнага калектыва х. Збляны быў праведзены абласны семінар па фальклоры і быў пастаўлены* ***абрад "Хрысціны".***

*Калектыў прымае ўдзел у раённых святах "Кірмаш талентаў", "Дажынкі". У 2003 годзе фальклорная група была знятая на БТ у праграме "Спявай душа".*

*Сярод удзельнікаў фальклорнай групы маюцца салісты: Ёдка Ўладзімір Баляслававіч, Калашнікава Кацярына Іванаўна, Майніч Галіна Фёдараўна, Урбановіч Марыя Пятроўна. У іх рэпертуары такія песні: "Ой сівы конь бяжыць", "Ой пайду я выйду", "Цвіце тэрэнь", прыпеўкі, "Пасаджу каліну ў полі".*





# ЛІДЧЫНА




**ПЕСКАЎЦЫ,** вёска, цэнтр сельсавету. Знаходзіцца за 50 км на паўднёвы захад ад раённага цэнтра Ліда, на правым беразе ракі Нёман, за 27 км ад чыгуначнай станцыі Скрыбаўцы. У другой палове XIX — пачатку XX ст. вёска Беліцкай воласці Лідскага павету. У 1895 г. адкрыта школа царкоўнага пісьменства, якая адносілася да Зблянскага праваслаўнага прыходу. Паводле польскага перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Беліцкай гміны Лідскага павета Навагрудскага ваяводства, 87 жылых пабудоў, 490 жыхароў. З 1940 г. — цэнтр сельсавету.

На 1.1.1996 г. - 173 падвор'і, 440 жыхароў.

На 1.1.2004 г. - 178 двароў, 404 жыхары.

Каля зах. ускрайку вёскі - селішча жалезнага веку. За 0,4 км на захад і каля малога лесу - стаянкі мезаліту і бронзавага веку.

**ГОЛДАВА,** вёска, цэнтр сельсавету. У цэнтры сяла стаіць царква Нараджэння Багародзіцы, ссечаная ў канцы XVIII стагоддзі як уніяцкі храм на месцы базыліянскага Траецкага кляштара, які прыйшоў у заняпад. Прастакутнай малітоўнай зале храма папярэднічае стройная званіца. Да пяціграннай абсіды прымыкае рызніца. У сярэдзіне царквы ўсталяваны разьбяны двух'ярусны іканастас з накладной пазалочанай арнаментальнай разьбой. Ён падзелены вытанчанымі калонамі і пілястрамі, паміж якімі змешчаныя абразы з мінулага і пазамінулага стагоддзяў. Насупраць царквы - двухярусная званіца.



*Царква Нараджэння Багародзіцы ў Голдаве*

Іншая драўляная царква ў Голдаве, ужо з другой паловы XIX стагоддзя, знаходзіцца на могілках. У плане яна ўяўляе сабой выцягнуты крыж. Над сяродкрыжжам падымаецца барабан, увянчаны шатровым дахам. Другая вертыкаль святыні - шатровая званіца пры галоўным фасадзе.

**БАБРЫ,** вёска Голдаўскага сельсавету.

Невялікую драўляную Крыжаўзвіжанскую царкву пабудавалі ў 1810 годзе, а праз семдзесят гадоў перарабілі, дадаўшы да бабінца шатровую паўасьміну званіцы з верхавінай. Прастакутны алтар святыні абстаўлены з трох бакоў рызніцамі. Рознавысотнасць усіх складнікаў царква аб'ёмаў нараджае мяккі, пластычны малюнак сілуэту помніка.



*Крыжаўзвіжанская царква ў Бабрах*

Каля царквы ляжыць камень-следавік.

**РАДЗІВОНІШКІ,** вёска Мажэйкаўскага сельсавету

Царква ў Радзівонішках была пабудаваная ў 1869 годзе і ўвасабляе ў сабе ўжо неаднаразова згаданую кананічную чатырохчасткавую кампазіцыю, якая атрымала шырокае распаўсюджванне ў праваслаўным будаўніцтве Беларусі пасля разгрому нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года, у якім шляхта Лідскага павету прымала актыўны ўдзел. Выбудаваная з каменя і цэглы, царква вельмі падобная на Пакроўскі храм у Мыто.



*Пакроўская царква ў Радзівонішках*

Тут з 1795 па 1807 год жыў Даніэль Казімір Нарбут (1738, Крупава - 1807) - мысляр, асветнік, філосаф. Выхадзец з Лідчыны, ён атрымаў грунтоўную падрыхтоўку ў піяраў, выкладаў філасофію ў піярскіх калегіюмах, выдаваў кнігі, у якіх разважаў аб грамадскай прыродзе чалавека, займаўся рэформай школьнай адукацыі ў Беларусі і Літве. Быў пахаваны ў Радзівонішках.



*Казімір Даніэль Нарбут*

**РЭПНІКІ,** вёска ў Мажэйкаўскім сельсавеце. Знаходзіцца за 18 км на паўднёвы захад ад г. Ліда. На пачатку XX ст. вёска Тарноўскай воласці Лідскага павету, 156 жыхароў, 173 дзесяціны зямлі. Паводле пера-пісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Тарноўскай гміны Лідскага павету Наваградскага ваяводства, 28 жылых дамоў, 137 жыхароў.

На 1.1.1996 г. — 46 падвор'яў, 80 жыхароў.

На 1.1.2004 г. — 35 двароў, 52 жыхары.

У Рэпніках нарадзіўся **Вячаслаў Статкевіч.**



*Вячаслаў Статкевіч*

***Вячаслаў Статкевіч*** *- саліст фальклорнага ансамбля "Свята", вядовец тэлеперадачы "Спявай душа".*

**ФЕЛІКСАВА,** вёска ў Мажэйкаўскім сельсавеце. Знаходзіцца за 25 км на паўднёвы захад ад г. Ліда, за 4 км ад чыгуначнай станцыі Скрыбаўцы. На пачатку XX ст. фальварак Лебядской воласці Лідскага павета Наваградскага ваяводства. З сакавіка 1921 да верасня 1939 г. у складзе Польшчы. Паводле перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Лебядской гміны Лідскага павету Наваградскага ваяводства, 33 дамы, 219 жыхароў.

На 1.1.1996 г. - 73 падвор'і, 147 жыхароў.

На 1.1.2004 г. - 91 двор, 220 жыхароў.

*Каля вёскі Феліксава ў фальварку Лебяда пана Фядэцкага рос таленавіты хлопчык Земавіт.*

*У часы вайны Земавіт знайшоў прытулак у беларускай сям'і Івана Мальца ў Феліксава.*

*У Феліксаве Земавіт Фядэцкі запісаў вялікую колькасць беларускіх народных песень з нотамі і выдаў іх у Польшчы пад назвай "Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі czyli co spiewano w Fieliksowie".*

*Фядэцкія пасля вайны выехалі ў Польшчу. Земавіт некаторы час працаваў аташэ ў польскай амбасадзе ў Маскве. Пераклаў на польскую мову і выдаў раман "Доктар Жывага" Пастарнака.*

*Кнігу ""Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі czyli co spiewano w Fieliksowie" у Італіі назвал "песнямі Атлантыды", а ў энцыклапедыі "Беларускі фальклор" для Земавіта Фядэцкага не знайшлося і двух радкоў.*



*Земавіт Фядэцкі*


Ziemowit Fedecki
Цёплыя вечары...
czyli co śpiewano
w Feliksowie
ды халодныя ранкі...

***Кніга Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі..."***

У песеннай вёсцы Феліксава створаны ансамбль бытавых інструментаў **"Каханачка".**

*Ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" Феліксаўскага сельскага клуба Лідскага раёна быў заснаваны ў 1980 годзе.*

*Усе ўдзельнікі гэтага калектыву добра спяваюць, танцуюць, іграюць на розных музычных інструментах (акардэон, бубен), бытавых (піла, тарка, граблі і г.д.)*

*Беларускія народыя песні: калядныя, валачобны, жартоўныя, прыпеўкі, самабытныя танцы сваёй вёскі і складаюць аснову рэпертуару ансамбля.*

*Нязменным поспехам карыстаюцца ў гледачоў танцы-найгрышы "Аляксандра" і "Каханачка", песні: "Лета, маё лета", "Суха каліна", "Явар". Названыя творы запісаны ў вёсцы Феліксава, аднаўлены і апрацаваны.*

*У 1995 годзе ансамблю бытавых інструментаў "Каханачка", прысвоена найменне "народны". Лаўрэат III-га Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці; прымаў удзел у раён-ных, абласных і рэспубліканскіх святах, фестывалях і аглядах мастацкай самадзейнасці, дзе быў узнагароджаны граматамі, дыпломамі.*

*У жніўні 2002 года адбыўся запіс праграмы Беларускага тэлебачання "Спявай душа", дзе ансамбль "Каханачка" прадставіў абрад* ***"Дажынкі"****.*



***"Каханачка" з Феліксава***

**МАЖЭЙКАВА** (да 2003 года - Малое Мажэйкава) - цэнтр сельсавету.

Гэтае старадаўняе селішча, вядомае з 1506 года, змяніла нямала гаспадароў з 1860 года ім валодалі Брахоцкія. Яны выбудавалі ў 70-80-х гадах XIX стагоддзі шырокую сядзібу, стылізаваную пад класіцызм, са ўсімі абавязковымі ў такіх выпадках складнікамі: сядзібным домам, флігелем, гаспадарчымі будынкамі і рэгулярна-пейзажным паркам з сажалкамі. Мясцовы саўгас (зараз аграфірма "Мажэйкава") устроіў тут сваю цэнтральную сядзібу сур'ёзна і надоўга...

Палац, перабудаваны Ўладзіславам Брахоцкім у пачатку XX стагоддзі, па-ранейшаму сустракае наведвальніка самавітым чатырохкалонным дарыйскім порцікам,увянчаным трохкутным франтонам з люкарнай. Пад шатамі порціка хаваецца мансардны паверх, які падымаецца над аднапаверхавым працяглым прастакутным будынкам, накрытым высокім вальмовым дахам. Фасад рытмічна дзеляць аконныя праёмы з сандрыкамі, аддзеленыя адзін ад аднаго руставанымі лапаткамі. Парадная частка дома размяшчалася ў правай яго частцы, службовая - у левай. Яны мелі анфіладную планіроўку. Ацалелая дагэтуль вітая лесвіца вяла з хола на другі паверх, дзе размяшчаліся спальні. Флігель і гаспадарчыя пабудовы ў сваім афармленні таксама былі нададзеныя класіцыстычнай дэкарацыяй і, на шчасце, захавалі іх сляды.

Апошнім уладальнікам маёнтка стаў сын Уладзіслава Брахоцкага - Аляксандр, па адукацыі інжынер-гідратэхнік, якога тут заспелі падзеі 1939 года. Ім напісаныя мемуары, што захоўваюцца цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы.

Побач з Мажэйкавым знаходзіцца, зараз ужо на тэрыторыі Шчучынскага раёна, у вёсцы Мураванцы, знакаміты храм-цвердзь Нараджэння Багародзіцы, выбудаваны, верагодней усяго, у другой чвэрці XVI стагоддзі. Яго па традыцыйнай прыналежнасці да маёнтка Малое Мажэйкава да гэтага часу так і завуць Мала-мажэйкаўскай царквой.



***Мураванка***



# ЛІДЧЫНА




**ВАВЕРКА**, вёска, цэнтр сельсавету

Так і жадаецца сказаць пабеларуску - Вавёрка! Між іншым, у XIX стагоддзі гэтую вёску звалі менавіта так. А вядома яна з 1413 года, калі тут быў закладзены касцёл Св. Францішка, пасля пераасвечаны ў імя Св. Сёмухі. У сярэдзіне XVI стагоддзя ён стаў кальвінісцкім зборам і "вярнуўся" у каталіцтва напярэдадні свайго разбурэння ў Трынаццацігадовую вайну (1654 -1667). Адноўлены ў 1841 годзе Кастравіцкімі, храм гэты пад імем Ператварэння Панскага ў пачатку XX стагоддзя быў зафіксаваны вядомым майстрам фатаграфіі Янам Балзункевічам. Цяпер касцёл абноўлены.



*Ваверскі касцёл*

У вёсцы Зіневічы каля Ваверкі нарадзіўся **Кіпрыян Кандратовіч.**

*"**КАНДРАТОВІЧ** Кіпрыян (Цыпрыян) Антонавіч (1859—?), бел. і рус. военачальнік. Генерал ад інфантэрыі. Скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генштаба. Удзельнік рус.-японскай вайны 1904- 05, нач. 9-й Усх.-Сібірскай дывізіі. З 1906 камандзір 2-га арм. корпуса, з 1907 пам. туркестанскага ген.-губернатара і камандуючага войскамі, з 1910 камандзір 1-га Каўказскага армейскага корпуса, з 1913 камандзір 23-га армейскага корпуса, удзельнічаў у 1-й Сусв. вайне. У 1884—1900 супрацоўнічаў у газ. "Московские ведомости". Аўтар працы "Плеўна і грэнадзёры 28 лістапада 1877 г.". У 1917 далучыўся да бел. нац. руху, уваходзіў у Цэнтральную беларускую вайсковую раду, узначальваў спец. аддзел па фармаванні бел. вайсковых адзінак. У траўні—чэрв. 1918 чл. Нар. сакратарыяту БНР. У снеж. 1918 разам з В. Ластоўскім узначальваў Савет дзярж. бяспекі БНР. У 1919 як член рады БНР уваходзіў у дэлегацыю БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі.*

*Быў пахаваны ў Лідзе, перазахаваны ў Воранава.*



*Генерал-лейтэнант К. Кандратовіч*

Недалёка ад Ваверкі каля Старых Васілішак у Лябёдцы - маёнтку Іваноўскіх Вацлаў Іваноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка) і інш. маладыя беларусы выдалі ў 1903 г. першы і адзіны нумар нелегальнай беларускай газеты "Свабода".

**ГАРНІ**, вёска ў складзе Трацікоўскага сельсавету. Знаходзіцца за 4 км на паўднёвы ўсход ад горада і чыгуначнай станцыі Ліда. Паводле польскага перапісу ад 30 верасня 1921 г., вёска Лідскай гміны Лідскага павету Навагрудскага ваяводства, 49 жылых пабудоў, 244 жыхары.

На 1.1.1996 г. — 82 падвор'і, 183жыхары.

На 1.1.2004 г. — 86 двароў, 178жыхароў.

У Гарнях размешчаны парк, закладзены ў 1881 г.

І нарэшце зноў **ЛІДА.** Ад Гарнёў трапляем у раён завода "Оптык" і тут можна пазнаёміцца яшчэ з адным калектывам горада Ліды - народным хорам "Скарбніца".

***Народны хор "Скарбніца" РУП "Завод Оптык".***

*На працягу 18 гадоў кіраўніком Народнага хору "Скарбніца" з'яўляецца Палівачка Аліцыя Збігнеўна.*

*У рэпертуары хору беларускія народныя песні, а таксама песні іншых народаў.*



*Народны хор "Скарбніца" лідскага завода "Оптык"*

***Абодва гэтыя маршруты можна будзе прайсці па залах Лідскага гістарычна-мастацкага музея, аднак пасля рэканструкцыі***

**Лідскі гістарычна-мастацкі музей**

10 лютага 1959 г. было прынята рашэнне аб стварэнні ў г. Лідзе краязнаўчага музея. Музей размясціўся ў хрысціянскім культавым будынку, пабудаваным у 1863 г. 24 красавіка 1959 г. адбылося адкрыццё музея. Гэтаму папярэднічала даследчая і збіральная праца па гісторыі штрайкаў 1930-х гг., партызанскага і падпольнага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Першапачаткова былі вылучаныя тры экспазіцыйных аддзела: прыроды, гісторыі дасавецкага і савецкага перыядаў.

Агульная плошча музея склала 358 м2, экспазіцыйная - 317 м2. У 1967 г. была адчыненая экспа-іцыя аддзела савецкага перыяду, а ў 1970 г. - экспазіцыі аддзелаў прыроды і гісторыі дасавецкага перыяду.

У 1979 г. фонды музея пачалі папаўняцца прадметамі археалагічных раскопак з замка.

У 1999 г. будынак музея быў перададзены Навагрудска-Лідскай епархіі пад Архістраціга-Міхайлаўскі кафедральны сабор, а музей перамясціўся ў будынак былога салона сямейных урачыстасцяў.

1 лютага 2000 г. краязнаўчы музей і мастацкая галярэя былі аб'яднаныя ў адну ўстанову - гістарычна-мастацкі музей. Новы будынак музея двухпавярховы, агульная плошча - 1820 м2. У цяперашні час праводзіцца рэканструкцыя будынка пад музей. У будучыні ў музеі будзе дзве экспазіцыйных залы: зала гісторыі плошчай 320 м2 і зала прыроды плошчай 112 м2. Яны размесцяцца на 1-м паверсе. Другі паверх аддадзены пад выставачныя залы агульнай плошчай 360 м2. Штогод у музеі праводзіцца больш 20 выстаў, як з фондаў музея, так і з іншых гарадоў, блізкага і далёкага замежжа. Тэматыка іх разнастайная: выставы работ мясцовых і іншагародніх мастакоў, археалагічныя, гістарычныя, этнаграфічныя, прыкладнага мастацтва, прадстаўлены жывёльны свет Лідчыны. Традыцыйнымі сталі сезонныя выставы "Свет пакаёвых кветак". Праводзяцца камерцыйныя выставы. У музеі маецца больш 33 000 музейных прадметаў асноўнага фонду і больш 4000 - навукова-дапаможнага.

У фондах музея знаходзяцца цікавыя музейныя прадметы і калекцыі.

У 2005 годзе на баланс музея перададзены Лідскі замак, і з 2006 года пачалася яго эксплуатацыя, як музейнага аб'екта.

У 2006 годзе музею павінен быць перададзены "Домік Таўлая", дзе будзе адкрыты Лідскі літаратурны музей.

Акрамя гістарычна-мастацкага ў горадзе і раёне дзейнічае яшчэ каля паўтара дзесятка самых розных музеяў.

## Валянцін Таўлай, домік Таўлая, Галіна Таўлай



*Валянцін Таўлай*

Гісторыя Ліды цесна звязана з імем беларускага паэта **Валянціна Таўлая**.

Перад вайной у Лідзе жыў бацька Валянціна Таўлая, часта бываў сам Валянцін. У 1940-41 гг. Валянцін Таўлай жыў у Лідзе і працаваў у лідскай газеце "Уперад".

У вайну Валянцін Таўлай быў схоплены немцамі, але быў выкуплены з вязніцы. Пра гэты выкуп існуе не адна легенда і не адно паданне, але факт застаецца фактам лідзяне выкупілі з нямецкай вязніцы свайго паэта Валянціна Таўлая, збераглі домік, у якім ён жыў, і стараюцца адкрыць у гэтым доміку літаратурны музей.



*Домік Таўлая, будучы Лідскі літаратурны музей*

**Галіна Таўлай, дачка Валянціна Таўлая**

**ТАЎЛАЙ Галіна Валянцінаўна** (н. 22.9-1946, Менск), этнамузыколаг. Кандыдат мастацтвазнаўства (1983). Скончыла Бел. кансерваторыю (1970). З 1965 выкладала ў музычных школах Менска, з 1985 навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Бел. АН. З 1996 у Расійскім Інстытуце гісторыі мастацтваў. Даследуе праблемы функцыянавання, стылістыкі, музычнай тыпалогіі, мелагеаграфіі бел. песеннага фальклору. Аўтар манаграфіі «Беларускае Купалле: Абрад, песні» (1986), музычных раздзелаў у тамах серыі БНТ: «Сямейна-бытавыя песні» (1984), «Купальскія і пятроўскія песні» (1985), «Сацыяльна-бытавыя песні» (1987), «Радзіны: Абрад. Песні» (1998).

*Т. Б. Варфаламеева.*

## Лідскія краязнаўчыя арганізацыі

1. Лідскае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута.
1. Лідскае краязнаўчае таварыства "Павет".

## Лідскія краязнаўцы

1. Міхась Бурачэўскі.
2. Аляксандр Жалкоўскі.
3. Аляксандр Колышка.
4. Уладзімір Круцікаў.
5. Анатоль Кулеш.
6. Лявон Лаўрэш.
7. Валеры Сліўкін.



*В. В. Сліўкін*

8. Станіслаў Суднік.
9. Станіслаў Ушакевіч.
10. Уладзімір Хрышчановіч.

## Дзе можна пачытаць пра Лідчыну

**Беларускі фальклор.Энцыклапедыя**: Гудскі гармонік, т.І, ст.375; Калі ласка, т.ІІ, ст.26; Каханачка, т.ІІ, ст.671 – 672.
**Гродзеншчына ў легендах і паданнях.** Ліда. Бярозаўка. Крупава. Крыніца. Леснікі. Мацэвічы.Укл. Аляксея Ненадаўца. Мн., 1999.
**Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.** Мн., 1974
**Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Лідскі раён.** Мн., 1986, ст.228-246
Легенды і паданні. Звод БНТ у 46 тт. Мн.,1983
**Лида и окрестности. Справочник туриста.** Мн., 2004
**Памяць. Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Лідскі раён.** Мн., 2004
**Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі** ў 5-ці тт. – Мн., 1984-1987
**Этнаграфія Беларусі.** Мн., 1989.
**Лідскі летапісец.** №№ 1-32.
Інтэрнэт-сайты і ў першую чаргу **"Pavet"**.



Лідскі Летапісец

№ 4 (32) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2004 г.

У НУМАРЫ:

Стар. 2. Кроніка Ліды.
Стар. 4. Лідскі гістарычны каляндар.
Стар. 8. Першая лідская марка.
Стар. 10. Помнікі Лідчыны.
Стар. 12. Генерал Кіпрыян Кандратовіч.
Стар. 27. Незабыўная вуліца Сувальская
Стар 35. Вуліца Сувальская паводле рэкламных праспектаў.
Стар. 41. Лідскае піва.
Стар. 55. Партызанскі атрад імя Варашылава.

ЛІДСКІ ЗАМАК

*Часопіс "Лідскі летапісец"*



# У памяць паўстанцаў 1863 года





Пасля імшы на полі паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі сябры грамадскіх арганізацый (Лідскія арганізацыі ТБМ, БНФ "Адраджэньне", КХП-БНФ, Бярозаўскія арганізацыі ТБМ і БНФ "Адраджэньне"), а таксама моладзь БНФ з Менска і Бярозаўкі ўсклалі кветкі да магіл паўстанцаў: ксендза Адама Фалькоўскага і Валеры Цехановіч. Ва ўскладанні кветак бралі ўдзел пісьменніца Вольга Іпатава і намеснік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

Такім чынам 30 ліпеня на Лідчыне былі ўшанаваны тры памятныя мясціны, звязаныя з паўстаннем 1863 года. Усяго ж іх тут значна болей.

У капліцы святой Барбары ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць лідскіх ксяндзоў, загінуўшых у паўстанні, мемарыяльная дошка ў памяць ксендза Раймунда Земацкага ўстаноўлена ў Ваверскім касцёле.

У Лідзе захоўваецца і чакае часу на ўстаноўку мемарыяльная дошкаў гонар Людвіка Нарбута. Устноўлены дошкі ў касцёлах Ішчолны і Жалудка (Шчучынскі раён).

Жыве памяць пра герояў нацыі на Лідчыне, то і жыве тут Беларусь.

***Яраслаў Грынкевіч.***

***На здымках:*** *падчас ускладання кветак да магіл Адама Фалькоўскага і Валерыі Цехановіч.*

# Падарунак да Дня Незалежнасці — "Песьні Свабоды-2"




Воля патрэбная чалавеку, як паветра. Гэтак кажуць, калі неабходна падкрэсліць неабходнасць свабоды для нашага існавання менавіта, як чалавечых індывідуумаў. Калі ж волі бракуе, дык яе недахоп магчыма паўнавартасна скампенсаваць, бадай, толькі песнямі. Мо таму, такой папулярнасцю ў беларускіх слухачоў карыстаўся дыск "Песьні свабоды", у якім знаныя беларускія рок-выканаўцы меліся сказаць усё, што яны думаюць адносна гэтай філасофскай катэгорыі, умоваў яе існавання ў нашай краіне.

Той факт, што "Песні свабоды" былі спампаваныя ў Інтэрнэце каля 50 тысяч разоў гаворыць пра тое, што праект атрымаў агульнабеларускую значнасць і вядомасць. Бо гэта адзіная магчымасць для маладых слухачоў самім удзельнічаць у складанні праграмы дыска, а таксама, атрымліваць гэтае своеасаблівае выданне па падпісцы. Да таго ж, вельмі цікава і тое, што дыск "Песні свабоды" быў выдадзены падпольным лэйблам "VoliaMusic", што само па сабе надае яму рамантычную аўру рэвалюцыйнасці. А каму ж хочацца прапасць такія цікавыя падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі...

Мо таму гэтая традыцыя прадоўжана новым рэлізам лэйбла "Volia-Music" "Песьні свабоды-2". На прэс-канферэнцыі, наладжанай з нагоды прэзентацыі гэтага выдання, даверaная асоба лэйбла "Volia-Music" (кіраўнік ў гэты час знаходзіліся за мяжой краіны) распавялі пра праграму навінкі: "Другі дыск праекту быў прымеркаваны да Дня аднаўлення Незалежнасці Беларусі 27 ліпеня, таму і тэматычны спектр ягоных песень больш шырокі – Свабода і Незалежнасць. На "Песьні свабоды-2" трапілі не толькі кампазіцыі, што не ўвайшлі па нейкай прычыне ў першую частку складанкі, але і кампазіцыі апошняга часу, што былі створаныя пад уплывам сакавіцкіх падзеяў, а таксама песні з навейшых рэлізаў беларускіх рок-музыкантаў."

Першыя дыскі атрымаюць тыя аматары беларускага року, якія апярэдне зрабілі падпіску на сайце www.za-svabodu.org. На гэтым жа сайце можна будзе спампаваць музычную праграму, а таксама выяву вокладкі.

Слухачоў новай складанкі лэйбла "Volia-Music" "Песьні свабоды-2" чакаюць цікавыя сустрэчы з уражваючымі рэпавымі чытанкамі гурту "Cyrvonym pa Bielym" і ягонага лідэра KROU, а таксама з новай песняй рэп-выканаўцы Імпэратара (таксама цяперака ўдзельніка ИрВ), якія сваёй творчасцю цвердзяць тое, што беларуская мова і рэп абсалютна сумяшчальныя. А таксама, што беларуская мова можа аб'ядноўваць людзей розных нацыянальнасцей: украінскі гурт "De Shifer" прапануе беларускім слухачам свой гіт "Час прыйшоў" і паказвае, што такое сапраўднае славянскае брацтва! Гэтая песня – сапраўдны рок-гіт на актуальную тэматыку, які калі-небудзь увойдзе ў аналы украінска-беларускага брацтва.

Сярод знакамітых кампазіцый, што з'яўляюцца асновай складанкі, назаву песні Лявона Вольскага "Ворагам" (на верш У. Караткевіча), "Наша ўскраіна" гурту "Мясцовы час", "Успамін пра будучыню" А. Плясанава (на словы В. Мартыненкі), "Пляц Францыска" гурту "УЛІС", Тодара "Я нарадзіўся тут..."

Лідэры гіт-параду "Тузін гітоў" прадстаўлены кампазіцыямі гуртоў ZET "Белакрылы Анёл", "Нейра Дзюбель" – "Край", Ultra-Вожык "Фабрыка сноў", Siver "Колер маёй рэвалюцыі", "Таварыш Маўзэр" і Сьвятлана Сугака "Беларусь будзе вольнай"...

Па дыску "Песьні свабоды-2" можна пазнаёміцца і скласці першыя ўражанні ад свежых беларускіх рэлізаў — :B:N: прадставіў песню "Цягнік" з новага "Zyvie rock-n-roll!", KROU "Cyrvonym pa Bielym" – новы рэп з CD "Aktualnaja Tematyka / Vuliinyja Bajcy", а Андрэй Хадановіч нагадаў сваім "Вожыкампатрыётам" недаўні рэліз "Партызанскай школы". На мой погляд, самым цікавым сюрпрызам для слухачоў стане адна з самых напружаных і стылістычна чыстых гард-коравых кампазіцый складанкі – "Менск – горад свабоды!" маладога гурту "SOC". Пажадаем поспехаў дэбютантам, якія гэтай кампазіцыяй зрабілі сапраўдны прарыў у сваёй творчасці!

Калекцыянераў беларускага падпольнага відэа дыск "Песьні свабоды-2" зацікавіць і тым, што тут упершыню апублікаваныя кліпы гурту N.R.M. "Гадзючнік" і праекту "Партызанская школа" "Не!", створаныя ў сапраўдных падпольных ўмовах. Вельмі цікавыя музычныя артэфакты апошняга часу!

***Анатоль Мяльгуй.***

## ДА 20 ЖНІЎНЯ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЗАВЕРШАНЫ ПАДРЫХТОЎЧЫЯ РАБОТЫ ПА ДАБРАЎПАРАДКАВАННІ ПАСТАЎ ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ДНЯ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

Да 20 жніўня павінны быць завершаны ўсе падрыхтоўчыя работы па дабраўпарадкаванні Пастаў (Віцебская вобласць) для правядзення Дня беларускага пісьменства. Такую задачу паставіў 28 ліпеня намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Аляксандр Касінец на пасяджэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы гэтага свята, паведамляе прэс-служба ўрада.

А.Касінец быў праінфармаваны аб ходзе будаўніча-аддзелачных работ у гістарычным цэнтры Пастаў — аднаго з самых старажытных гарадоў Віцебскай вобласці, першае ўзгадванне аб якім у летапісах датуецца 1409 годам.

Віцэ-прэм'ер даў указанні наконт тэрмінаў завяршэння будаўнічых і аддзелачных работ, пацікавіўшыся пры гэтым якасцю матэрыялаў. "Людзі, якія жывуць у гэтым населеным пункце, павінны атрымаць да свята прыгожы, дабраўпарадкаваны і абноўлены горад", — заявіў А.Касінец.

XIII Дзень беларускага пісьменства пройдзе ў Паставах 3 верасня.

***Марына НОСАВА, БелаПАН.***

## ПРЫЗЫ НА ФЕСТЫВАЛІ "БАСОВІШЧА-2006" АТРЫМАЛІ ПЯЦЬ БЕЛАРУСКІХ РОК-ГУРТОЎ

17-ты фестываль музыкі маладой Беларусі прайшоў 21—22 ліпеня ў польскім Гарадку. У ім узялі ўдзел 10 беларускіх рок-гуртоў, якія прайшлі адборачны тур фестывалю "Адборышча-2006". Як паведаміла БелаПАН каардынатар фестывалю з беларускага боку Вольга Кузміч, традыцыйна на "Басовішчы" не прысуджаліся першыя месцы. Тым не менш сёлета на фестывалі было некалькі прызоў, большасць з якіх атрымалі беларусы. У прыватнасці, прыз ад радыё "Беласток" — права запісу дэбютнага альбома і грашовае ўзнагароджанне ад Саюза беларусаў у Польшчы — атрымала мінская каманда "S.D.M.". Гурт "Parason" атрымаў права на 40 гадзін студыйнага запісу і грашовую прэмію ад Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы. Магілёўская рок-каманда "Vodar Susviet" стала ўладальніцай гітары ад радыё "Рацыя". Грашовыя прэміі таксама атрымалі беларускія гурты "Людзі Сьвятла" і "Nevma".

Паводле слоў В.Кузміч, сёлета "Басовішча" сабрала мноства гледачоў. Польскі Гарадок быў так перапоўнены, што няма дзе было нават ставіць палаткі, але гэта не адбілася на агульнай атмасферы фестывалю — "усё прайшло шумна і весела".

***Тацяна ДАРАШЧОНАК, БелаПАН.***

Алесь Петрашкевіч

# Смерць або Перамога!

## Гістарычная трагедыя. Час падзей — 1794 г.

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

***Рапнін.*** Рапурт сдан, ваше императорское величество!..

***Кацярына II.*** На два фельдмаршала в моей империи станет больше. Спасибо за службу, главнокомандующий.

***Рапнін.*** Рад стараться, ваше императорское величество!

***Кацярына II*** *(Зубаву)*. Награду герою!

*Зубаў перадае Рапніну залатую шпагу. Рапнін цалуе зброю. Кацярына ў абедзьве шчакі цалуе Рапніна. Зубаў і Безбарадка паціскаюць яму руку. Рапнін прымацоўвае шпагу да месца. Зубаў разлівае шампанскае ў келіхі.*

За победу российского оружия!

*Звіняць келіхі.*

А теперь к делу. Прошу садиться. Фельдмаршал с дороги, а война продолжается.

*Усе сядаюцца.*

Что думаешь по этому поводу, фельдмаршал? Что просишь у ее величества императрицы?..

*Рапнін хоча ўстаць.*

Побеседуем сидя, князь.

***Рапнін.*** Если о войне, ваше величество, то война там была и остается не против вражьей армии, но против общего народного бунта всего шляхетства и черни, всех явно или потаенно вооруженных, которых, следственно, выгнать перед собой нельзя, а всегда они будут оставаться сильнее войск, выдавая себя за спокойных обывателей, отчего всегда тыл наш будет захвачен при отдалении наших войск. Мы там не в России, отколь бы таковой неприятель от одних мужиков ни одного войска не вынес, если бы дерзнул на крамолу. Отсюда без высочайшего императорского покровительства и помощи для общего блага государства российского нам там не обойтись.

***Кацярына II.*** Нам теперь равно не обойтись как без Польши, так и без Великого Княжества. А покровительством своим тебя на Княжество наместником ставлю. Себе оставишь 13 полков, а Княжество на три округа разделишь — Виленский, Ковенский и Гродненский. В округа бригадных командиров назначишь, а в города — батальонных и капитанов-исправников поставишь. У судов по делам криминальным прежние права отнять и все самим решать. Удерживая токмо одно старое имя их, лишить несообразных древних своих преимуществ. Пресечь всякие злоупотребления, смертоубийства, истязания и смертную казнь. Все напечатанные возмутительные сочинения, листы и акты изъять, а всех подозрительных управляющих из имений изгнать! Людей, революционным сеймом определенных, от всех дел удалить! Круг ненадежных сократить изгнанием за границу или принудив продать свои имения. Секвестрованные же имения своим раздать. Что касаемо генерала Суворова, то неотложно вознаградить его в двадцать тысяч крепостных в пределах Кобрина. Кажется там у него были достойные подвиги.

***Рапнін.*** Совершенно верно, ваше императорское величество. Великое Княжество Литовское наречем Беларусью. А чтобы в этом крае не возродилось какого-либо возмущения, повелеваю не давать ему времени ни опомниться, ни собрать, ни соединить новые противу нас способы. Канцлеру неотложно подготовить манифест о вечном присоединении Великого Княжества, то бишь Беларуси, к империи нашей.

***Безбародка.*** Манифест готов, царица-матушка.

***Кацярына II.*** Тогда огласить его единообразно и вдруг с одновременной присягой поселян на верность престолу российскому. И всем в России власть придержащим никогда не забывать, что оружием этих литвинов-белорусцев нам никогда не замирить. Сделать это со временем не малым сможет только русский чиновник, поп и учитель.

***Рапнін.*** Слова великой царицы апостольским сродни.

***Кацярына II.*** О Речи Посполитой, как государстве, твое слово, канцлер.

***Безбародка.*** Поляки со всех соседей самые неверные и более всех питают к нам сильную и непримиримую ненависть. Французские идеи настолько среди них укоренились, что они смогут на их основе опять учредить свое самостоятельное правление, а призывы свободы и равенства вынудят Россию орудовать штыком против парижской заразы, расходовать деньги и рекрутов. Нам же иметь по соседству республику небезопасно, ибо мы теперь имеем прилежащие к Польше губернии, языком и обычаем с нами сходные, откуда зараза легко распространится далее. Пагубное же ея следствия такого толкования неистребимы. Держать силой правление, какое нам угодно, бессмысленно среди народа непостоянного. А по сему нет иного средства, кроме уничтожения республики польской, разделение ея земель между тремя победившими державами — Россией, Австрией и Пруссией.

При выборе лучшего из худшего, лучше присвоить, то есть присоединить к России 100 тысяч квадратных верст, в результате знатное число литвинов-белорусцев греческого исповедания, легко имеющего возвратится с унии в соединение с нашей церковью. Достаточно только напомнить ему, что он от предков своих православный, стало быть испокон русский. А ежели допустить сохранение Речи Посполитой, то лучше закрепить свое влияние в ней в виде Сената, дабы такое правление было недеятельное и ничего не значащее.

***Кацярына II.*** Польша и этого недостойна. Эта держава, а вернее ублюдочное королевство должно исчезнуть в небытии посредством разделения между державами-победителями.

***Рапнін.*** Великая царица, а как же с королем Станиславом Августом...

***Кацярына II.*** Под конвоем эскадрона драгун под прощальный салют из 100 пушек препроводить эту вертлявую марионетку в Гродно под надежную охрану да держать в изоляции. Пусть пока играет в бильярд, а там видно будет... Чего еще не ясного в намерениях наших?

***Рапнін.*** Великая царица, союзники наши медлительно и крайне осторожно действуют, а, мы, отваживаясь все вперед, себя изнуряем...

***Кацярына II.*** Я не сомневаюсь в согласии с нами дворов прусского и австрийского в необходимости уничтожения прежнего политического бытия польского государства, но предвижу и склоку по поводу уделов, каждому из них присвояемых. Король прусский без каких-либо оснований проявил жадность и наглость. Вместо спокойного и дружественного завершения раздела сговорился с французами вытеснить нас с земли белостокской от Буга до Нарова, а посему, князь Репнин...

*Рапнін устае з крэсла.*

...срочно и скрытно размести наше войско на Белостокщине и под их прикрытием проведи разделительную границу с Пруссией по линиям рек Буг—Свислочь—Нёман и далее по старопрусской границе в Жемойтии, чтобы не дать захватить чего из оной пруссакам. Не упусти снять эти земли на карту, чтобы лучшее сведение иметь о той земле, в которой войну принужденную вести будем.

***Рапнін.*** Все исполню, великая царица, во славу оружия нашего и приращения империи российской.

***Кацярына II.*** Канцлеру снестись с генерал-прокурором, дабы он в последний раз попытался исторгнуть из главаря восстания Костюшки желаемые сведения и готовил публичную казнь.

***Безбародка.*** Все исполню, ваше величество!

***Кацярына II.*** Всех благодарю! Все свободны.

*Усе, акрамя Зубава, выходзяць. Кацярына II знемарана садзіцца на канапу.*

*Сцэна прыцямняецца.*

***Зубаў*** *(прысеўшы перад царыцай)*. Моей царице плохо?!

***Кацярына II.*** Царице хорошо, но царица хочет большего и большого. Поздравь и услади меня на радостях, Платоша. *(Падымае падол, агаляе ногі.)*

***Зубаў.*** И поздравлю и услад... услажу, как всегда и более того...

***Сцэна зацямняецца.***

**Эпілог**

*Даволі прасторная вязніца з адзіным невялічкім закратаваным акном. Каля яго стаіць спінаю да ўваходных дзвярэй вязень у турэмнай вопратцы, абапёршыся на мыліцу. Галава яго перавязана стужкаю не першай свежасці. Каля глухой сцяны вязніцы — ложак, засцелены шэрай коўдрай. У канцы ложка — невялікі стол і зэдлік, прыкаваныя да падлогі. Адчыняюцца акаваныя жалезам дзверы, увахо дзіць генерал-пракурор Самойлаў. Вязень прадаўжае глядзець у акенца.*

***Самойлаў.*** Доброго дня пану бунтовщику.

*Вязень паварочваецца. Гэта Касцюшка.*

***Касцюшка.*** Дзякуй на добрым слове пану пракурору.

***Самойлаў*** *(міралюбна ўдакладняе)*. Проша пана — генерал-прокурору ваш «дзякуй».

***Касцюшка.*** Пшапрашам пана генерал-пракурора. *(Зноў глядзіць у акенца.)*

***Самойлаў.*** Генерал-лейтенант Костюшко чем-то озабочен?

***Касцюшка*** *(кульгаючы да ложка)*. Усведамленнем таго, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку.

***Самойлаў.*** А если бы такая возможность была?..

***Касцюшка.*** У спрыяльных умовах увайшоў бы, не пытаючыся пра глыбіню...

***Самойлаў.*** У арестанта-смертника есть некая надежда?

***Касцюшка.*** Усё цячэ, усё змяняецца, як ваша Нява — то шэрая і пагрозлівая пад нізкімі аблокамі, то срэбная і прыветная пад промнямі сонца. Аднак я змаўкаю, пакуль з мяне не здымуць аковы.

***Самойлаў.*** Садитесь на кровать и дайте мне руки.

*Касцюшка садзіцца на ложак, падымае рукі, скаваныя ланцугом. Самойлаў адмыкае замок, ланцугі падаюць на падлогу.*

Извините, ноги закованы навечно.

***Касцюшка*** *(размінаючы рукі)*. Вы так думаеце?..

***Самойлаў.*** Я не первый год навещаю государственных преступников типа Емельки Пугачева.

***Касцюшка.*** Даруйце, але параўнанне, мякка кажучы, не карэктнае. Ямелька падняў бунт казакоў. Я ж падняў рэвалюцыю супраць дзяржавы-агрэсара, дзяржавы-акупанта за волю і незалежнасць трох народаў — палякаў, ліцьвінаў і жамойтаў.

***Самойлаў.*** Поп свое, черт свое — отдай мою суму.

***Касцюшка.*** Вы што, сапраўды ўпэўнены, што наша «сума» застанецца ў вашага папа на вякі вечныя?

***Самойлаў.*** А не перейти ли пану генералу от эвфемизмов и намеков-экивоков к делу? Вы же имеете дело не с балагуром, а с генерал-прокурором ее величества императрицы, который по ее поручению будет добиваться от вас того, в чем императрица заинтересована.

***Касцюшка.*** Наўрад ці задаволю я цікаўнасць яе вялікасці. А з вамі я ахвотна пагутарыў бы пры ўмове, што вы не станеце дамагацца ад мяне запрадаць-заклакласці сваіх сябroў-паплечнікаў па арганізацыі паўстання, стварэнні войска і яго ўзбраення, формаў ідэалагічнай работы сярод свайго народа і вашых войскаў і, вядома ж, планаў на аддаленую нашай паразай перспектыву. Карацей кажучы, з майго боку гаворка можа быць пра што хочаце, толькі не пра тое, чаго і ад мяне, і ад вас чакае імператрыца.

***Самойлаў.*** Вы можете понять, что генерал-прокурору не только странно, но и дико слышать от арестанта-смертника такие разговоры.

***Касцюшка.*** А вы не хвалюйцеся і не спяшайцеся хаваць мяне жывога. Запэўніваю вас, што я чалавек не толькі абстраляны. Я яшчэ мужчына, рыцар і яшчэ палітык, які дбае не столькі пра сябе, колькі аб лёсе і працвітанні сваёй дзяржавы і яе народа выключна на ўлонні Еўропы, а не пад пятой азіяцкай тыраніі. Потым ніхто дабрачынна не жадае ўлады. Мне яе ўручылі ў крытычны момант. Не ведаю, ці заслужыў я гэты давер, але ведаю тое, што даручаная мне ўлада была толькі сродкам для паспяховай абароны маёй Радзімы.

***Самойлаў.*** Я здесь разных насмотрелся и мне очень интересно, откуда у вас все это в смысле уверенности?..

***Касцюшка.*** Ад усяго патрыятызму, але толькі не ад фанатызму. Хутчэй за ўсё — гэта ў мяне, бадай што, ад Русо. Мантэск'е, Дзідро, Вальтэра ды іншых. А найперш ад Францыі, дзе перамагла рэвалюцыя, ад Амерыкі, што сілай зброі сваіх самаахвярных сыноў пазбавілася рабства.

***Самойлаў*** *(разгублена)*. Что вы несете, генерал? Кто-кто, где-где, а в Европе все знают, что Руссо, Монтескье, Дидро и Вольтер кумиры просветительницы ее величества Катерины!

***Касцюшка.*** Ахвотна вам веру, але і вы мне паверце, што мы па-рознаму чыталі і спавядалі французскіх асветнікаў: яна як ханжа і прытворшчыца, а я як прыхільнік Вялікай Французскай рэвалюцыі і ідэальнай рэспублікі. Ад аднаго ўпамінання Марата і Рабесп'ера вашу імператрыцу кідае і ў жар, і ў холад, а мяне іх думкі прывялі да прызнання канцэпцыі народнага суверэнітэту і незалежнасці. Бо кожны чалавек, якой бы то ні было краіны, саслоўя або веры мае прыроджанае права атрымаць свабоду, валодаць уласнасцю, мець волю і роўнасць, у тым ліку і прыгонныя сяляне. Ім жа, як і ўсім іншым,— свабода перамяшчэння, свабода веравызнання, адукацыя і асвета!





Алесь Петрашкевіч

# Смерць або Перамога!

## Гістарычная трагедыя. Час падзей — 1794 г.

*Самойлаў (здзіўлена, абурана).* Свобода, просвещение, образование для черни?! И ради этого «начальник» восстания генерал-лейтенант Костюшко поднимает против России не только чернь Королевства, но и Княжества, но войска и шляхетство?!

***Касцюшка.*** Толькі пасля таго, як войска Расіі супольна з войскам Прусіі і Аўстрыі пачалі ў трэці раз дзяліць паміж сабою Княства і Каралеўства. І робяць гэта ў той час, калі мы пачынаем уладкаванне сваёй дзяржавы паводле зацверджанай соймам Канстытуцыі ад 3 траўня 1791 года. Другой Канстытуцыі ў свеце пасля амерыканскай! Памятаю, як у сваім лісце да Дзеляруша, аднаго з дзеячаў па падрыхтоўцы якабінскай Канстытуцыі Францыі, я пісаў апошняму: «Ні для вас, ні для нас, грамадзян Каралеўства і Княства, не можа быць волі без канстытуцыі. Толькі яна можа замацаваць іх шчасце, ажыццявіць нашыя спадзяванні і паконьчыць з тыраніяй».

***Самойлаў.*** Этим вы и подтверждаете, что сознательно приняли идею революции оной диктатуры и террора кровавых якобинцев Марата и Робеспьера как против своего народа, так и против наших войск.

***Касцюшка.*** Што да майго народа, то вы памыляецеся. Адстойваючы прынцыпы законнасці і справядлівасці ва ўмовах рэвалюцыйнага выбуху народаў Княства і Каралеўства, я як начальнік паўстання, у адрозненне ад камандуючага расійскімі войскамі, не дапускаў свавольства, дэспатызму і крывавых распраў. Наша рэвалюцыя праводзілася не дзеля таго, каб знішчыць усякую аброць са свавольства. Насупраць, яна ставіла сваёй мэтай устанаўленне парадку, падпарадкаванне закону. Аснова свабоды для мяне і маіх паплечнікаў была ў правасуддзі. Без правасуддзя свабода — хвароба грамадства. Таму мы і не дапускалі ніякай тыраніі, ад каго б яна ні зыходзіла.

***Самойлаў.*** И дошли до свержения законного короля.

***Касцюшка.*** Што да караля, якога яе вялікасць імператрыца пасадзіла на карак нашаму народу, то ён на час усенароднага абурэння і паўстання ператвараўся ў бязвольнага і бязглуздага гасудара-здрадніка. Дык што ж з ім яшчэ было рабіць?

***Самойлаў.*** Если не секрет, генерал, в чем заключается конечная цель вашей революции?

***Касцюшка.*** Вядома ж, яе канчатковая перамога ў Польшчы і Вялікім Княстве, а таксама садзейнічанне хуткаму распаўсюджанню рэспубліканскай ідэі ў Расіі. І ніякага сакрэту, каб не зводзіць у зман ні генерал-пракурора, ні імператрыцу.

***Самойлаў.*** Вы действительно мужественный человек.

***Касцюшка.*** Што ні кажыце, а прыемна пачуць такія словы ад генерал-пракурора яе манаршай вялікасці. Але Томас Джэферсан—аўтар Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі, ацаніў мае грамадзянскія якасці яшчэ вышэй, сказаўшы, што «Касцюшка—гэта найчысцейшы сын свабоды, якога я калі-небудзь бачыў, і той свабоды, што ўключае ўсіх, а не жменьку выбраных ці багатых».

***Самойлаў.*** И все же вы фанат, генерал, и к тому же хвастун.

***Касцюшка.*** Рыцар я. Проста рыцар.

***Самойлаў.*** Это уже явная нескромность при всем при том, кто бы про вас что ни сказал.

***Касцюшка.*** Ніякай нясціпласці. У рыцарскай школе ідэалам справядлівасці для мяне стаў грэк Цімамон, які некалі даў волю свайму краю, раздаў зямлю тым, хто яе ўрабляў, склаў мудрыя законы. А сабе нічога не браў. Свайму юнацкаму куміру я быў верным усё сваё жыццё і застануся верным яму да апошняга дня жыцця.

***Самойлаў.*** И чего же вы, рыцарь без страха и упрека, достигли, придя фактически к своим последним дням?

***Касцюшка.*** Я ад душы жадаў служыць Бацькаўшчыне, але не змог гэтага зрабіць і вельмі смуткую аб гэтым. Паўстанне пацярпела жорсткую паразу, але ж яно абудзіла дух народаў у святой барацьбе за волю і незалежнасць. А гэта ўжо не так мала... А што маеце вы ў сваёй паўазіяцкай дэспатыі пад назвай Расійская імперыя на чале з ілжэасветніцай, рукі якой па локці ў нашай і не толькі ў нашай крыві.

***Самойлаў.*** Вы переходите всякие границы, генерал. И мы прекратим разговор, как только вы скажете мне как простому смертному, почему же ваша авантюра потерпела оглушительное поражение. Я не думаю, что тем самым вы выдадите некую тайну.

***Касцюшка.*** Ніякай таямніцы. І я задаволю вашу простую чалавечую цікавасць. Вы нават можаце падзяліцца маімі высновамі з імператрыцай. Павінна ж яна хоць што-небудзь ведаць.

***Самойлаў.*** В этом вы действительно правы.

***Касцюшка.*** Па-першае, паўстанне вымушана пачалося раней, чым было дастаткова падрыхтавана. Па-другое, нам здрадзіла Францыя, хоць наш супраціў Расіі якраз і ўратаваў французскую рэвалюцыю, здрадзіў свайму народу кароль і буйныя магнаты, што перапалохаліся шляхты і сялян-касінераў. Магнатам, як нікому, было што губляць і яны выбралі здраду. І нарэшце, стварэнне аб'яднанага, а дакладней, адзінага рэвалюцыйнага ўраду і адзінай дзяржавы замест канфедэрацыі Княства і Каралеўства, што па задуме павінна было садзейнічаць цэнтралізацыі ўлады. Ліцвін, беларус па-вашаму, Касцюшка не жадаў такой долі для сваёй Бацькаўшчыны, але і выступіць супраць рашэння ўраду магчымасці не меў. Памкненні Польшчы ліквідаваць Княства, а граніцы Рэчы Паспалітай ўжо аднаго народа адсунуць за Смаленск было і стала яе памылкай, праліканн. Аўтарытарнае рашэнне Польшчы не магло не насцярожыць ліцвінаў і жамойтаў і іх лідэраў, а найперш Якуба Ясінскага. Грэх мой перад нябожчыкам яшчэ не замолены мною перад Усявышнім. Добра было б для абодвух народаў, каб Польшча хоць у душы пакаялася перад Вялікім Княствам і маімі суродзічамі-ліцвінамі.

*Усталёўваецца доўгая паўза. Самойлаў ходзіць па вязніцы. Схіляе галаву, горбіцца ў скрусе Касцюшка.*

***Самойлаў.*** А как вы вообще стали военным, воином? Ей право интересно.

***Касцюшка.*** Хутчэй за ўсё гэта ў мяне спадчыннае. Бацька быў знаны ваяр. Я змалку ганарыўся і любаваўся ім, калі яму выпадала завітаць дамоў паміж бясконцымі войнамі з Масковіяй. Гэта і прывяло мяне ў Рыцарскую школу. А потым кароль парэкамендаваў мяне ў парыжскую школу мастакоў. Толькі я там не столькі маляваў, колькі вывучаў творы французскіх асветнікаў і рэвалюцыянераў, а таксама матэматыку ды вайсковую інжынерыю. Па тым часе вайскоўцы-ліцвіны яшчэ не патрэбны былі Польшчы. І я падаўся на вызваленчую вайну ў Амерыку, з якой і вярнуўся на Радзіму брыгадным генералам.

***Самойлаў.*** Зачем вернулись?

***Касцюшка.*** На кароткае пытанне кароткі адказ: каб прывезці ідэі і досвед амерыканскай рэвалюцыі, выкладзенай у Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў рэалізаваць іх на сваёй роднай зямлі.

***Самойлаў.*** Имеете семью, поместья, крепостных?..

***Касцюшка.*** Прыгонных адпусціў на волю. А адзіную маю любую Людвіку бацька магнат-прыгоннік прайграў у карты іншаму магнату у залік сваёй доўгу, сказаўшы мне, маладому выкладчыку маляванняя: «галубкі не для вераб'ёў, а дочкі магнатаў не для шляхцюкоў».

***Самойлаў.*** Простите, генерал, за бестактный вопрос.

***Касцюшка.*** Нічога. Генерал-пракурор мае магчымасць задаваць генералу-вязню любыя пытанні.

***Самойлаў.*** Смерти не боитесь?..

***Касцюшка.*** Няхай гэта вас не трывожыць.

***Самойлаў.*** Мой пересказ нашей беседы может неудовлетворить больную императрицу и вас возьмут на истязание...

***Касцюшка.*** Значыць, мне давядзецца памерці ў катавальні, а не на плошчы. Не бачу вялікай розніцы. А мой народ на гэты час мяне аплакаў. *(Цытуе.)*

*Вазьмі, маці, пяску жменю,*
*Пасей па каменю.*
*Калі той пясок узыйдзе,*
*Касцюшка з вайны прыйдзе.*
*Ляціць воран цераз мора,*
*А лятучы, крача.*
*А хто ж майго Касцюшкі*
*Магілку аплача.*

*Словы кранаюць генерал-пракурора, але ён авалодвае сабою і падыходзіць да вязня.*

***Самойлаў*** *(строга).* Цепи и руки!

*Касцюшка падымае рукі.*

***Касцюшка.*** Толькі рукі...

*Самойлаў некаторы час чакае, потым сам падымае ланцуг.*

*Нясмела адчыняюцца дзверы камеры, з'яўляецца Наглядчык турэмны.*

***Самойлаў.*** Тебе чего, служивый?!

***Назіральнік*** *(разгублена).* Осиротели мы, батюшка генерал-прокурор...

***Самойлаў*** *(устрывожана).* Ты о чем?

***Назіральнік*** *(хрысціцца).* Царица-матушка, царствие ей небесное, почила в бозе. Велено усилить охрану...

*З рук Самойлава ланцуг падае на падлогу. Яго доўгі позірк сустракаецца з позіркам Касцюшкі.*

***Самойлаў.*** Цепи с ног генерала сними и охраняй его пуще глаза. *(Касцюшку.)* «Блаженны изгнанные за правду, ибо их есть Царство Небесное». Святое благовествование от Матфея.

***Касцюшка.*** «Дабрашчасныя міласэрныя, бо яны памілаваны будуць». З таго ж дабравесця.

*Заслона паволі апускаецца.*

*2006 г.*

# КАЛЯ 10 ТЫСЯЧ СТАРАЖЫТНЫХ ПРАДМЕТАЎ ЗНОЙДЗЕНА АРХЕОЛАГАМІ Ў ЛЯХАВІЦКІМ РАЁНЕ

Каля 10 тысяч прадметаў знайшлі археолагі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас раскопак непадалёк ад вёскі Свяціца Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Экспедыцыя пад кіраўніцтвам загадчыцы аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў Інстытута гісторыі НАНБ, доктара гістарычных навук Алены Калечыц працавала каля Свяціцы больш за месяц.

Як паведаміў БелаПАН адзін з членаў экспедыцыі, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Віктар Абухоўскі, гэта другі этап археалагічных даследаванняў: першы праводзіўся вясной. Работы археолагаў звязаны з праектам рэканструкцыі Агінскага канала, у прыватнасці яго паўночнай часткі — ад ракі Шчары да пасёлка Целяханы. Менавіта тут пройдзе дарога для турыстычных маршрутаў, а некаторыя адрэзкі сушы павінны стаць азёрамі. Таму археолагі і пачалі праводзіць разведку, каб бясследна не зніклі помнікі старажытнасці, якія могуць апынуцца на затопленай тэрыторыі. У выніку былі выяўлены дзве групы старажытных помнікаў — каля вёскі Вулька Целяханская і каля вёскі Свяціца. Усяго, паводле слоў Абухоўскага, на адрэзку ад Шчары да Целяхан знойдзена прыкладна 20 археалагічных помнікаў.

Асабліва, паводле яго слоў, цікавыя знаходкі каля Свяціцы. Тут на плошчы каля 300 квадратных метраў археолагі знайшлі прыкладна 10 тысяч розных прадметаў. Самая старадаўняя знаходка датавана IX тысячагоддзем да н. э., самая новая — II тысячагоддзем да н. э. Гэта і наканечнікі стрэл, і скрабкі, і разцы, і праколы, якімі карысталіся паляўнічыя на паўночнага аленя ў IX—V тысячагоддзі да н. э. Усе знаходкі з крэмнія.

"Гэта унікальны археалагічны помнік, — падкрэсліў Абухоўскі. — Культурны слой у іх у выніку пэўных абставінаў не змяшаўся з культурнымі слаямі больш позняга часу, як бывае часцей за ўсё, і адносіцца толькі да мезалітычнай эры. Што дае нам унікальную магчымасць больш дакладна вывучыць жыццё людзей у той далёкі час". Паводле слоў археолагаў, дагэтуль у Беларусі былі вядомыя толькі два археалагічныя помнікі з нязмешанымі культурнымі слаямі. Дзякуючы гэтай экспедыцыі дадалося яшчэ тры.

Сёння археолагі закончылі работу каля Свяціцы, але ў наступным годзе яны плануюць прадоўжыць навуковыя даследаванні.

*Галіна ЗАГАДСКАЯ, БелаПАН.*

